Васіль Ляшчынскі→3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Тадэвуш Кунцэвіч→4




http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 37 (29398) Год LVII | Беласток, 9 верасня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Хрысціны ў Махнатым

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

— У Махнатым жыве мусі з дзвесце людзей, больш няма. Калісь то было можа і з пяцьсот, — кажуць у адной з найдаўжэйшых вёсак Гайнаўскай гміны. Калісь у цёплыя вечары выседжвалі тут на прыхатніх лавачках, а спеў разносіўся па навакольных палетках і далятаў аж да блізкага Старога Беразова. Сёння вечарамі ціха. Ад вясны чуваць перш за ўсё спеў жаваранкаў. І якраз „Жаваранкамі” ахрысцілі мясцовы калектыў, які дагэтуль дзейнічаў без назвы больш за год. За той час паспеў ён аб’ехаць амаль усю гміну. Цяпер, ужо названы, мае рушыць у далейшы шлях. Нават у Брусель.



На хрысціны ў сапраўды сямейнай атмасферы ў Вясковы дом культуры ў Махнатым 1 верасня 2012 года з’ехалася шмат гасцей. Былі войты Гайнаўскай і Чыжоўскай гмін, прадстаўнікі консульства Беларусі ў Беластоку і Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве, падляшскі віцэ-маршалак, дырэктаркі навакольных школ, а нават еўрадэпутат. Былі, вядома, і падарункі. Вось Вольга Рыгаровіч, войт Гайнаўскай гміны, спрэзентавала тогі і абяцала задбаць пра грошы на далейшую дзейнасць калектыву, бо, як казала — такі ў ім запал. Маторам яго ўзнікнення быў больш за сямідзесяцігадовы солтыс вёскі, дзеяч мясцовай Добраахвотнай супрацьпажарнай каманды Аляксей Герасімюк:

— Калектыў узнік дзякуючы ўсім нашым хлопцам і дзяўчатам, але папраўдзе гэта я першы ўсё сарганізаваў. Калектыў налічвае чатырнаццаць асоб, усе яны махначане, толькі музыкант даязджае з Гайнаўкі. Мы сарганізаваліся, бо трэба трымацца нашай традыцыі і мовы. Найбольш песень дастаўляе нам наш музыкант Пятро Скепка. Выцягвае адкульсь такія старэйшыя песні. Назва „Жаваранкі” ад таго, што мы вясной пачалі сваю дзейнасць, так як яны! Пачалося ад таго, што нам захацелася, каб штосьці такое было ў Махнатым. Калектыў быў у нас у шасцідзесятыя гады. Ды калектыў пажаніліся, дзяўчаты павыходзілі замуж, пайшлі на працу і ўсё развалілася. Я пайшоў на пенсію і падумаў, што штосьці такое ў нас трэба сарганізаваць.

Некаторыя старэйшыя памятаюць, як на вуліцы ў Махнатым спявалася:

— Цяпер дык людзі мала спяваюць, таму што моладзі намнога менш. Цяпер сядаюць перад тэлевізарам. Выходзім часам на вуліцу перад святліцу, калі рыхтуемся або як карагод у апошні час ішоў з Фіёнікам, — успамінае Аляксей Герасімюк. — Мы былі ў шмат якіх месцах ад аднаго канца павета да другога. Касцюмы атрымалі мы дарам дзякуючы пані Валянціне Ласкевіч і Янку Сычэўскаму з БГКТ (Беларускае грамадска-культурнае таварыства было ініцыятарам хрысцін — М. Х.).

Сяброўка калектыву Анна Іванюк:

— Можна сказаць, што я ў гэтым калектыве зусім выпадкова, бо шмат гадоў жыла я ў Гданьску і там дзейнічала ў БГКТ. Вярнулася сюды на вёску, калі захварэла мая мама. Аднойчы прыйшоў да мяне солтыс і спытаўся: „А можа заснавалі б мы нейкі калектыў?”. Я сказала: „Ну, пэўна!”. І так мы сустрэліся на першым арганізацыйным спатканні, мы, свядомыя беларусы, ведаючы сваю тоеснасць. Сустрэча адбылася 17 красавіка. Было цёпла. Спявалі жаваранкі. У Гданьску шмат гадоў дзейнічаў калектыў якраз з назвай „Жаваранкі”. Спявала я ў ім таксама і мая дачка. Нашым хлопцам і дзяўчатам спадабалася гэтая назва. Збіраемся вельмі часта. Нядаўна да нас прыехаў з Гродна Алесь Лойка (на свяце выступаў ён разам з калектывам — М. Х.). І цудоўна нас паінструяваў, правёў майстар-класы. Падкінуў новыя песні і паказаў крыху сцэнічнага руху. Мы захоплены гэтым чалавекам.

Іншая ўдзельніца „Жаваранкаў” — Міраслава Клімюк:

— У нас разнастайны рэпертуар. Ёсць і сучасныя песні, якія напісаў Алесь Лойка. Ёсць і старыя, якія спявалі нашы бабулі. Трохі іх адналяем, крыху папраўляем, крыху дадаем. Цяпер, калі ў нас ёсць новая назва, дык можа будзем больш вядомымі. „Жаваранкі” будуць асацыявацца з Махнатым, а дасюль быў проста от так — калектыў.

На хрысціны, вядома, прыйшлі людзі з амаль усёй вёскі. Сярод іх была Вера Калісюк:

— Усе мы рады, што наша вёска дзякуючы ім жыве. Перш за ўсё мы, старэйшыя. Бо я ўжо застарая, каб спяваць! Трэба мець найбольш 50-60 гадоў. У тым узросце, што наш солтыс, ужо бывае зацяжка, цяжка ходзяць ногі. А так, у вёсцы, дык ніхто ўжо не спявае. Іншымі парабіліся людзі.

На хрысціны запрасілі дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі Эдуарда Швайко:

— Вельмі нас цешыць, што на Беласточчыне ўзнікаюць новыя беларускія калектывы. Аказваецца, што беларусы хочуць дбаць аб сваё традыцыі і карані. Узнікненне гэтага калектыву будзе новай рысай у жыцці гэтай вёскі і ўсёй беларускай меншасці. Можна спадзявацца, што гэты калектыў пакажа, што зрабіў на працягу гэтага года на найбліжэйшым Фестывалі беларускай песні, арганізаваным БГКТ, і мабыць стане адным з яго лаўрэатаў.

Адпаведна хрысцінам, былі кум і кума. Хроснай матулькай стала дырэктарка выканаўчай управы аддзела Добраахвотнай супрацьпажарнай аховы Люцына Галёнка:

— Я стала хроснай маці, здаецца, па супрацьпажарнай лініі, бо кіраўнік гэтага калектыву здаўна сапраўдны пажарнік. Я нарадзілася недалёка адсюль, у Чыжах. Там я хадзіла ў школу, там мае бацькі. Мела гэта, мабыць, значэнне ў тым, што менавіта мне даручылі гэтае ганаровае заданне. Сказала я сёння калегу, чыжоўскаму войту, што я прыватна ахрысціла чацвёра дзяцей, усё ж такога стрэсу, як тут, я не мела. Так як і ў прыватным жыцці, я буду наведваць калектыў а то на Каляды, а то на Вялікдзень. Пастараюся падкідваць ім валачобнае. Буду пра іх памятаць!

Кум ды старшыня павятовага аддзела Польскай народнай партыі (ПСЛ) у Гайнаўцы і кіраўнік лакальнага Агенцтва развіцця і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі Мікалай Яноўскі спозніўся больш чым на гадзіну.

— Хто гэта бачыў, каб кум спазняўся на хрысціны! — турбаваліся мясцовыя пад домам культуры.

На канец кум заехаў гожай машынай разам з неспадзяваным госцем — еўрадэпутатам і віцэ-старшынёй ПСЛ Ярaславам Каліноўскім:

— Быў я хвіліну таму на справаздачна-выбарчым сходзе ПСЛ у Гайнаўцы і старшыня павятовай арганізацыі, мой шматгадовы калега Мікалай Яноўскі, хросны бацька гэтага калектыву, забраў мяне з сабою, — тлумачыў нам госць еўрадэпутат. — Цешуся, што меншасныя традыцыі, а папраўдзе можна сказаць — сваяцкія, захоўваюцца, падтрымоўваецца і ўласная мова. Добра, што ёсць людзі, якія ведаюць адкуль вырaслі, адкуль іхні род і хочуць гэта перадаваць новым пакаленням. Калі захоўваецца мова, не толькі ў форме спеву і дэкламацыі, але і ў штодзённым быцці адны з аднымі, якраз справа ў гэтым. Тым прыгожая наша ўся Польшча: разнароднасцю. Мне даспадобы ўсходняя Польшча. Нідзе няма такога клімату, сардэчнасці, гасціннасці.

Дэпутат еўрапейскага парламента нечакана прыехаў з падарункам. Запрасіў „Жаваранкі” на вясну ў Брусель. Запрашэннем маюць пакарыстацца таксама выступаючыя ў Махнатым „Чыжавяне”. Невядома чаму „Нараўчанак”, калектыву таксама выступаючаму на хрысцінах, Ярaслаў Каліноўскі не запрасіў.

У сваю чаргу кум Яноўскі „кінуў канверт у кашу” і пераконваў са сцэны:

— Жаваранак гэта новае жыццё, новая надзея. Гэта надзея, што наша культура і вера тут, у Махнатым, не загінуць.

Спецыяльным госцем свята была фальклорная група «Купалінка» Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску. Пасля выступленняў быў пачастунак. Як і трэба ў хрысціны — дапазна.





# Дзень паразы

Сотні тысяч маленькіх і юных жыхароў Беларусі 1 верасня пайшлі на так званыя школьныя „лінейкі” — у краіне пачаўся новы навучальны год. Па старой завядзёнцы дзень гэты неафіцыйна лічыцца і прызнаецца большасцю святочным, бацькі рыхтуюцца да яго загадзя, а прыгожа і чысценька апранутыя дзеткі нясуць да школьных парогаў тысячы букетаў. Для нас жа, беларусаў, якія не здолелі забяспечыць для сваіх дзяцей беларускамоўнага навучання, гэта дзень нацыянальнай паразы, дзень перажывання і глыбокага расчаравання. Мяркуйце самі — у старажытным Гродне, нашай Гародні, якая яшчэ дваццаць гадоў таму заяўляла прэтэнзіі на тое, каб быць „беларускім Львовам”, на сённяшні дзень сярод трыццаці васьмі школ няма аніводнага беларускага класа. Аніводнага паўнавартаснага беларускамоўнага класа ў горадзе над Нёманам, дзе пражывае больш трохсот тысяч жыхароў, няма! Мясцовыя русіфікатары за васемнаццаць гадоў прэзідэнцтва чалавека, які ненавідзіць беларускую мову, знішчылі нашае школьніцтва ўшчэнт. Беларуская грамадзянская супольнасць, якая рознымі спосабамі спрабавала ратаваць беларускую школу, пацярпела на сваім полі зруйнавальную паразу. А значыць гэтай супольнасці ў нас ужо няма ўвогуле, як бы ні прыкра і горка было гэта прызнаваць. Апошняе пакаленне, якое вучылася ў значнай ступені па-беларуску ў дзевяностых гадах, раз'ехалася па цэлым свеце. А ў сталіцы моладзь усяляк пераследуюць за грамадскія акцыі рознага кшталту. Такую беларускамоўную патрыятычную моладзь мэтна адсочваюць, пільнуюць спецслужбы і не даюць ёй развівацца. А такіх моладзевых лідараў, як Зміцер Дашкевіч, садзяць у турму. Новы, дзікі па сваёй несправядлівасці прысуд мінулага тыдня пакідае яго за кратамі яшчэ на год.

1 верасня ў нас яшчэ называюць Днём ведаў. Але нашы людзі не ведаюць многага з таго, што робіцца ў дзяржаве. Не ведаюць, бо не хочуць ведаць. Разгаварыліся днямі з адной кабетай у цягніку, сярод іншага дайшло і да гутаркі пра школу. Здалося, што яна сапраўды здзівілася, што ў нашай краіне такая сітуацыя з беларускамоўным навучаннем. Цётка, якая прынамсі лаяльная да парадкаў у дзяржаве, пагадзілася, што са школамі так быць не мусіць. Але вось у чым парадокс. Нібыта ніхто асабліва не супраць беларускай мовы, за выключэннем асобных „біялагічных” супраціўнікаў. Нібыта наўкола паўсюдна беларусы, толькі беларускага ў іх нічога няма — ні на языку, ні ў душы.

Сітуацыя з беларускімі школамі горшая зараз, чым у савецкі час. Тады за беларускую мову таксама змагаліся адзінкі, але былі і дырэктары школ, і супрацоўнікі аддзелаў адукацыі, якія патрыятычна шанавалі мову і нават заступаліся за тых, хто змагаўся за яе. Пра такіх асоб не раз мне даводзілася чуць, прыкладам, ад Апанаса Цыхуна ці Алеся Белакоза, вядомых рупліўцаў беларушчыны на Гарадзеншчыне. Было цэлае пакаленне настаўнікаў, якія добра валодалі роднай мовай, выкладалі яе дзецям праз розныя прадметы і прывівалі павагу да свайго. У такіх настаўнікаў пашчасціла вучыцца і мне. Так, ідэалогія ў тагачасных школах была фальшывая, але, па-першае, многія ў яе тады шчыра верылі, а па-другое, беларускую мову як так зараз не бэсцілі, не занядбалі. А што ж сённяшняе пакаленне настаўнікаў і работнікаў сферы адукацыі? Дастаткова зазірнуць на афіцыйныя інтэрнэт-сайты ўстаноў адукацыі, каб зразумець сапраўдны стан рэчаў. А настаўнікі працуюць толькі на страўнікі, з'яўляюцца сляпымі выканаўцамі дзяржаўнай ідэалогіі. Гэта яны праводзяць і ўкараняюць русіфікацыю. Гэта яны складаюць пераважную частку сябраў выбарчых камісій і фальсіфікуюць выбары апошнія семнаццаць гадоў. Чаму яны могуць навучыць дзяцей у гэтых чужынскіх школах?!

Адзін самаабвешчаны „інтэлектуал” з ліку тых, хто не так даўно прэтэндаваў на палітычнае лідарства ў нашай краіне і бясслаўна і подла завяршыў сваю кар'еру, днямі „ўсплыў” і выдаў у інфармацыйную прастору нешта кшталту „1 верасня — гэта дзень розуму, свята розуму”. Аднак не, шаноўнае спадарства! 1 верасня ў Беларусі — гэта не свята, гэта не дзень ведаў і розуму! Гэта дзень нашай паразы, гэта дзень нацыянальнай ганьбы і сораму...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Асацыяцыі і анекдоцікі

Анекдоцікі пра людзей любяць паўтарацца. Можа не літаральна, бо змяняецца час, дык і людзі з ім. Але ў асноўным абрысе ўсё застаецца такім, якім было заўжды.

Значна больш за сто гадоў таму Юзаф Ігнацы Крашэўскі ва *Успамінах з Валыні, Палесся і Літвы* моцна пакепліваў з тагачасных палешукоў, пішучы аб іх, што *свой Пінск, як кітайцы Пекін, прывыклі лічыць пупам свету.* Для пацвярджэння гэтых слоў прывёў такі вось анекдоцік: „Хтосьці спытаўся ў палешука: — *А скуль чэловік?* А той адказаў: — *Я нэ чэловік, я пынчук.* І адтуль называюць іх не чалавекамі, толькі пінчукамі”, — іранізаваў пісьменнік.

З падобнай, хаця не як кропля вады, гісторыяй спяшаюся і я падзяліцца з чытачамі. Было гэта пад крамай у Нарве. Як звычайна каля яе круціліся сваякі — аматары таннага вінца і ўсялякіх навінак. Слова „круціліся” тут невыпадковае, паколькі сваякі, хаця ўжо напіліся ўдоваль таго вінца, але ж да навінак далей былі прагавітыя. Якраз пад краму пад'ехала *выпасеная фура* — аўтамашына з усімі прыбамбасамі... Ды што я пішу „фура”. Такой сапраўднай, у дзве аглоблі, на балёнавых колах і запрэжанай у коніка дык я не бачыў хіба дзесяць гадоў! Ну, вось, быў гэта самаход ці іншы мерседэс. Рэгістрацыю меў чужую, таму ўсе сабраныя пад крамай пачалі пазіраць з надзеяй, што, можа, штосьці з гэтага атрымаецца. Адсунулася аконная шыбка і паказалася ў ёй гожая бландзінка. — *Паны мясцовыя? Шукаю такога і такога, дзе ён можа жыць?* — спыталася ветліва. — *Можа? Мусіць!* — вырваўся да адказу адзін з іх, выпадкова той, якога шукала незнаёмка. — *Ды не можа!* — дадаў з гарыччу. — *Як гэта так?* — здзівілася паненка. — *А гэта так, што калі б ён мог, дык жыў бы ў любым месцы, абы толькі не ў такім, дзе мусіць жыць... Але ж не можа, бо хата яму на чэрап звалілася. О, там, там...* — тут махнуў у невядомым напрамку. Блёнд-прыгажуня азірнулася па рынычку і страсянула галавою: — *Не бачу тут такой хаты. — Бо яна сароміцца і хаваецца ў кустах*, — цярпліва тлумачыў сваяк. — *О там, бачыце? — Хату?* — здзівілася бландзінка. — *Не, кусты!* Незнаёмка акінула позіркам сваяка з галавы да пят і прыкмеціла не без сарказму: — *А з пана дык такі мясцовы... чалавек, праўда?!* — *Чалавек*, — горда адказаў сваяк, — *дык я, прошапані, усюды!* Сказаўшы гэта, кіўнуўся, але з такой элегантнасцю, што гэтага не зрабіў бы лепш п'яны бусел перад жабай. — *Нар-р-р-ваўскі п'янчуга!* — нечакана забурчала матарызаваная красуня — спачатку вуснамі, а пасля рухавіком аўтамашыны (ці іншага мерседэса) — і толькі мы яе і бачылі. — *От і не зразумела, што я ёй тлумачыў, а я гэта той самы, каго яна шукала. Тупагаловая нейкая!* — засумаваў сваяк.

Слова „тупагаловасць” досыць непапалітае ў сваяцкай гаворцы, выступае аднак часта ў анекдотах аб людзях улады. Адзін з іх тут прывяду. Вось па прычыне каралеўскай тупагаловасці спёкся Філіп ІІІ Іспанскі. Насмерць. Вось сядзеў ён задоўга пры пераноснай, распаленай да чырвані, жалезнай печы. А хаця ўжо сквірчаў як скварка, крэсла не адсунуў. Ну не падыходзіць такое каралю! Тым больш, што меў для гэтай справы назначанага служку, які па яго жаданню печку або падсоўваў, або адсоўваў. Толькі хаця яго клікаў, той падзеўся недзе ў палацавых закавулках... І так кончылася караляванне...

Тупагаловасць — сцвярджае ў *Шаленстве ўлады* Барбара В. Тухман, амерыканская даследчыца гісторыі — з'яўляецца фактарам, які ў майстэрстве ўладарання адыгрывае задзіўляюча сур'ёзную ролю. *Заключаецца яна на ацэнцы сітуацыі на падставе зверху вызначаных меркаванняў, з ігнараваннем і адвяржэннем усяго, што супраціўнае.* Гэтую думку ілюструе яна прыкладам іншага іспанскага караля, Філіпа ІІ, *які як тупіца пераўзышоў усіх манархаў*, таму што, паводле сучасных яму гісторыкаў, *ніякі правал ягонай палітыкі не патрапіў змяніць у ім пераканання аб яе абсалютнай дасканаласці.* Чакайце, чакайце... Гэтыя словы асацыююцца мне... Ды няважна з кім. Ці ў Пінску ці ў Мінску, у Нарве ці ў Варшаве — усюды тупагаловых поўна. Не адзін пачуем пра іх анекдоцік.

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# „IV Edycja” асуджана



Хаця мо гэта выпадкова, але дакладна ў трыццаць другую гадавіну падпісання жнівеньскіх пагадненняў (дата ўстаноўленая Сеймам Днём салідарнасці і свабоды), Акруговы суд у Беластоку асудзіў на год безумоўнай турмы чатырох маладзёнаў, якім больш за дваццаць гадоў, за прапаганду фашызму і распальванне нянавісці па нацыянальнай і канфесійнай глебе. Гэта яны і іншыя нявызначаныя злачынцы — як заявіў у час працэсу суддзя Славамір Валосік — дзейнічалі ў сарганізаванай злачыннай групе пад назвай „IV Edycja”. У 2007 г., не кіруючыся імпульсам, але ў запланаваны спосаб намалявалі яны літары „SS”, свастыкі, антыяўрэйскія лозунгі м.інш. на беластоцкіх помніках ахвярам паўстання ў гета, яўрэйскім могільніку і мемарыяльнай таблічцы ў гонар стваральніка мовы эсперанта Людвіка Заменгофа. Мелі яны таксама падрыхтаваны агромны банер з надпісам „Jude raus!”, які меў павіснуць у цэнтры Беластока. На агучэнне прысуду явіліся трох з абвінавачаных: два, абстрыжаныя дагала, давезеныя былі ў наручніках з арышту, адзін з абвінавачаных да канчатковага завяршэння працэдуры адказваў застаючыся на волі. У час цэлага судовага разбору не відаць было па іх пакаяння. У час агучання судовага рашэння паводзілі яны сябе так, быццам былі ім мала зацікаўленыя, а адзін, скаваны наручнікамі, заціскаў кулакі, пасміхаючыся час ад часу.

Як я пісаў у гэтай рубрыцы месяц таму, гэтая справа вярнулася да новага разбору пасля таго, як Акруговы, а пасля Апеляцыйны суды не дашукаліся падстаў, што злачынцы дзейнічалі ў сарганізаванай злачыннай групе. Да новага разбору накіраваў справу Вярхоўны суд, які прыняў пад увагу касацыйную скаргу прыватнай асобы — дапаможнага абвінаваўцы. Цяпер пракуратура патрабавала для двух абвінавачаных па годзе турмы без выпрабавальнага тэрміну, а для апошняй пары — па годзе з выпрабавальным тэрмінам.

Суддзя Валосік, тлумачыўшы матывы цяперашняга вырашэння, высвятляў прынцыпы дзеяння „IV Edycji”: «Была гэта арганізацыйная структура без правадыра. Задумы вырашаліся шляхам галасавання. Усё праводзілася з захаваннем прынцыпу канспірацыі».

Прыгадаў: «Абвінавачаныя не прызналіся да віны. Іхнія тлумачэнні не заслугоўваюць даверу. Засланяліся яны забыццём, а нават рабілі ўражанне, што хварэюць амнезіяй».

Адзначыў: «Іхнія дзеянні характарызуе высокі ўзровень грамадскай шкоднасці, накіраваны на бяспеку грамадзян і публічны парадак. Намерам абвінавачаных было распальванне нянавісці да грамадзян іншай нацыянальнасці і веравызнання. У дэмакратычнай дзяржаве, якой з'яўляецца РП, не могуць мець месца такія паводзіны. Іх рэсацыялізацыя, наколькі ўвогуле магчымая, дык толькі ва ўмовах пенітэнцыярнай установы». І што найважнейшае пасля апеляцыі, рашуча адзначыў: «Дзейнічала сарганізаваная злачынная група з назвай „IV Edycja”. Каб быць у групе „IV Edycja”, трэба было шмат чытаць і размаўляць аб прапаведаванай ідэалогіі». Што цікавае і што можа стаць прадметам апеляцыі (рашэнне суда яшчэ не набыло законнай сілы), суддзя заўважыў, што ў польскім крымінальным кодэксе няма вызначэння сарганізаванай злачыннай групы, хаця яна ў кодэксе згадваецца: «У юрысдыкцыі ўмацавалася, што такая група дзейнічае шляхам каардынаваных сувязей паміж яе членамі праз вызначаны спосаб дзеяння, задавальняюцца яе вызначаныя патрэбы і дзейнічаючць у ёй прынамсі тры асобы».

У апошні час таксама ў Беластоку прагучаў іншы вердыкт, датычны здарэнняў фашысцкага, расісцкага і ксенафобнага характару на Падляшшы ў апошніх гадах. Датычыў ён асоб, якія ў верасні 2011 г. парушылі парадак Маршу адзінства, сарганізаванага супраць хвалі якраз такіх злачынстваў. У гэтай справе суд канчатковым рашэннем палічыў вінаватымі 35 абвінавачаных. 17 з іх аштрафавалі па 600 злотых, а апошніх асудзілі на месяц абмежавання волі з абавязкам бясплатнай працы па 40 гадзін. Пакуль невядома, дзе і як яны будуць тыя «грамадскія працы» выконваць.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Размова з **Васілём Ляшчынскім**, шматгадовым дырэктарам бельскай «тройкі», які на пасадзе настаўніка перапрацаваў звыш сарака гадоў і 31 жніўня гэтага года адышоў на пенсію.

# Сваё жыццё прысвяціў школе

***— Вы пачалі працаваць настаўнікам у Падставовай школе ў Моры. Якія былі пачаткі педагагічнай работы?***

— У 1968/1969 школьным годзе ў школе ў Моры пачаў я працаваць настаўнікам тэхнікі, мастацтва, фізкультуры і польскай мовы. Жыў я тады яшчэ ў Орлі, адкуль і выводжуся, а на працу даязджаў на веласіпедзе або хадзіў пяшком. Як на тадышнія часы ўмовы працы ў школе ў Моры былі вельмі добрыя, бо заняткі адбываліся ў новым, мураваным будынку. Для сялян настаўнік быў тады аўтарытэтным чалавекам, калі, канешне, быў людскай асобай. Працы тады было многа, бо на працягу шасці дзён, разам з суботамі, трэба было правучыць у тыдзень ажно 36 гадзін. Я быў тады малады і працы было мне мала. Яшчэ заставаўся з вучнямі на спартыўныя трэніроўкі, хаця складана было іх праводзіць, бо хлопцы і дзяўчаты мусілі тады дапамагаць бацькам у палявых працах і пры дамашняй гадоўлі.



***— Як у сямідзесятых гадах было ў школе ў Моры з дысцыплінай?***

— Бывала, што настаўнік ставіў вучня на калені, за вуха пацягнуў ці лінейкай па руках ударыў. Аднак я ставіў і стаўлю на падыход да вучняў як да раўнапраўных людзей, якіх трэба як мага найбольш зацікавіць урокамі і разгортваць у іх зацікаўленні, таксама на пазаўрочных занятках.

***— Вы рана распачалі працу, бо вышэйшую адукацыю здабывалі ў час перапынку ў прафесійнай рабоце.***

— Пасля заканчэння вучобы ў Педагагічным ліцэі ў Бельску-Падляшскім я ўцякаў перад службай у войску і пачаў вучыцца ў двухгадовай Настаўніцкай студыі ў Элку, пасля якой стаў працаваць менавіта ў Моры. Аднак пасля года работы ў падставовай школе перарваў яе і паступіў у Вышэйшую педагагічную школу ў Гданьску, якую пасля пераўтварылі ў Гданьскі ўніверсітэт. Пасля чатырохгадовай вучобы там, бо два гады настаўніцкай студыі палічылі мне за год вышэйшай адукацыі, пачаў я працаваць у 1973 годзе на пасадзе дырэктара, ізноў у Падставовай школе ў Моры, дзе разам з сям'ёй пасяліўся на кватэры ў школьным будынку. Перапрацаваўшы там паўтара года, атрымаў я прапанову стаць дырэктарам Падставовай школы № 3 у Бельску. Стаўшы на гэтую пасаду ў 1975 годзе, працаваў тут да выхаду на пенсію.

***— Самых вялікіх прафесійных поспехаў Вы дабіліся, працуючы многа гадоў менавіта дырэктарам бельскай «тройкі».***

— Калі я прыйшоў працаваць у «тройку», было тут 17 аддзяленняў, а ў Агульнаадукацыйным ліцэі, якім кіраваў Аляксей Карпюк, было 8 класаў і ўся вучоба адбывался ў адным будынку. У Куратарыі ў Беластоку выпрасіў я сродкі на разбудову школы, а канкрэтна на дабудову 6 адукацыйных кабінетаў, якія былі здадзены ў карыстанне ў 1985 годзе. Аднак найбольш трэба было нахадзіцца, каб можна было збудаваць спартыўную залу, у галоўным з грамадскіх сродкаў. Спартзала была здадзена ў карыстанне ў 1995 годзе. Гэта самая вялікая спартыўная зала ў Бельску-Падляшскім. Ад 1995 года ў нашым горадзе не была ўзведзена ніводная спартыўная зала і не была здадзена ў карыстанне ніводная спартыўная пляцоўка, па-за «Орлікам», які паўстаў дзякуючы хадайніцтву павятовых улад. Хаця вучні «тройкі» дабіваліся вялікіх поспехаў у спорце, то я намагаўся перш за ўсё, каб у нашай школе быў самы высокі ўзровень навучання і гэтага ўдавалася нам дабівацца. Відаць было гэта як у прадметных конкурсах, у час завяршальных экзаменаў, якія праводзяцца ў трэцім класе гімназіі, так і ў час праверачных тэстаў, што сталі ладзіцца ў шостым класе падставовай школы. Не было ніводнага года, каб наша белгімназія па гэтых завяршальных экзаменах не была самай лепшай школай у Бельску-Падляшскім і каб не была вышэй сярэдняй у Бельскім павеце і Падляшскім ваяводстве. Пачынаючы з 1975 года, калі я стаў дырэктарам «тройкі», у нашай школе было 270 лаўрэатаў прадметных конкурсаў з падставовай школы і 119 лаўрэатаў з белгімназіі (дзейнічае ад 2001/2002 школьнага года — А. М.). Мы трапляем у лепшую дзесятку школ у ваяводстве, саступаючы наогул толькі найлепшым школам у Беластоку, Ломжы, ці Сувалках, дзе з большай колькасці жыхароў можна выбраць і прыняць у школы больш чым у нас самых здольных вучняў.

***— Якіх прынцыпаў Вы трымаліся ў адносінах да вучняў?***

— Я стараўся стварыць у школе такую атмасферу, каб вучня навучыць быць чалавекам, свядомай і разумнай асобай. Мы стараемся, каб вучань дабіваўся гэтых вартасцей не з дапамогай загадаў, але праз усведамленне вучням самых важных вартасцей шляхам разумнага супрацоўніцтва з імі. У нашай школе мы не вешаем на сценах лозунгаў, толькі стараемся, каб вучні выпрацоўвалі ў сабе станоўчыя прыкметы шляхам свабодных выбараў. Вельмі важнае, каб вучні адчувалі на ўроках і па-за імі, што настаўнікі шануюць іх погляды і бяруць пад увагу іхнія меркаванні. Так як вучні павінны слухаць выказванняў настаўнікаў, так і настаўнікі павінны слухаць выказванняў вучняў. Мы стараемся нашых выхаванцаў навучыць шанаваць іншых людзей, прытым не баяцца выказаць сваіх поглядаў.

***— Вы былі членам Польскай аб'яднанай рабочай партыі і належалі нават да ваяводскіх улад гэтай партыі. Як цяпер успрымаеце вашую палітычную ангажаванасць пры Народнай Польшчы?***

— У перыяд Народнай Польшчы я быў членам Ваяводскага камітэта ПАРП і ваяводскім радным, але не захапляўся ідэямі партыі. Стаў я членам ПАРП, можна сказаць, крыху выпадкова, будучы яшчэ вучнем Педагагічнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Быў я тады крыху шворлівым вучнем і выбралі мяне старшынёй школьнага гуртка Саюза вясковай моладзі. Дырэктар школы запрапанаваў мне, так як і іншым маім сябрам, уступіць у партыю і хаця мая мама адгаворвала мяне ад такога рашэння, я ўсё ж такі ўступіў, а ў час вучобы ў вышэйшай установе па гэтай прычыне некаторыя сябры нават глядзелі на мяне крыва. Калі працаваў у Бельску, у час партыйных пасяджэнняў гаварыў я тое, што думаў і па гэтай прычыне некаторыя мясцовыя партыйныя дзеячы не любілі мяне. Калі раскідалася ПАРП, мне аддалі маю папку, у якой амаль нічога не было. Магчыма, што прыхавалі дакументы на мяне, хаця я нічога не напракудзіў, працуючы дырэктарам, чаго меў бы цяпер апасацца. Аднак ведаю, што ў нас была настаўніца, якая даносіла партыйным работнікам у Бельску пра ўсё, што адбывалася ў нашай школе.

***— У грамадскім плане ў Бельску-Падляшскім і на Беласточчыне вы вядомы перш за ўсё як асоба, якая моцна ангажуецца ў беларускую справу. Калі адбываліся першыя самаўрадавыя выбары, пасля палітычных і гаспадарчых перамен у Польшчы, вы былі суарганізатарам Беларускага выбарчага камітэта ў Бельску і пасля арганізавалі Бельскую кааліцыю.***

— Гэта Сяргей Лукашук выйшаў з прапановай арганізаваць у Бельску Беларускі выбарчы камітэт. Мы такі камітэт заснавалі, а я з іншымі сябрамі сталі бельскімі раднымі. Пасля ў Бельскую кааліцыю апрача Беларускага выбарчага камітэта ўвайшлі сацыял-дэмакраты, члены Уніі працы і ўкраінцы і мы супольна кіравалі ў Бельску восем гадоў, а нашым бурмістрам быў цяперашні дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. Хаця пасля бельскія структуры Саюза левых дэмакратаў атрымалі загад ісці на выбары асобна, пад сваёй шыльдай, Бельская кааліцыя не распалася, увесь час прымала ўдзел у самаўрадавых выбарах і я ангажуюся ў яе дзейнасць.

***— Былыя вучні з «тройкі» займаюць адказныя пасады і выконваць розныя цікавыя прафесіі. Што адчуваеце, успамінаючы Вашых выпускнікоў?***

— Я рады, што нашы вучні дабіліся поспехаў у прафесійным і асабістым жыцці. Мы нават хацелі сабраць інфармацыю аб нашых выпускніках і змясціць у кніжцы, прымеркаванай да 50-годдзя нашай школы (была яна заснавана ў 1965 годзе). Я ў «тройцы» на пасадзе дырэктара перапрацаваў 37 гадоў і звярнуўся да бурмістра Бельска Яўгена Беразаўца з прапановай дазволіць мне папрацаваць у школе яшчэ тры гады, сарганізаваць юбілейныя святкаванні і толькі тады адысці на пенсію. Аднак я не дачакаўся адказу. Затое пасля бельская ўлада сказала мне неадкладна адысці на пенсію па той прычыне, што я скончыў 65 гадоў. Паводле яе, Карта настаўніка не дазваляе працаваць даўжэй у школе. Аднак ва ўзросце 65 гадоў я маю толькі выбар і магу адысці на пенсію, але я не вымушаны гэтае рабіць, у чым упэўнілі мяне юрысты. Калі быў праведзены апошні конкурс на дырэктара «тройкі», далі мне дазвол быць дырэктарам два гады, хаця пераможцам кожнага конкурсу на дырэктара школы павінна дазваляцца працаваць на гэтай пасадзе чарговыя пяць гадоў. Я лічу, што на сённяшняе стаўленне бельскай улады да мяне мела ўплыў тое, што я сказаў два гады таму ў час самаўрадавых выбараў. Я тады заявіў, што Бельск трэба правярыць і папрыбіраць і бельская ўлада за тое на мяне пакрыўдзілася. Я не памяняў сваіх поглядаў і цяпер таксама лічу, што Бельск неабходна праветрыць і папрыбіраць, бо гарадской уладзе характэрнае кумаўства.

***— Чым плануеце заняцца на пенсіі?***

— Хацеў бы яшчэ крыху папрацаваць у карысць «тройкі» і прынамсі займацца са школьнай камандай гандбалістаў, якую трэніраваў я да гэтай пары і якая дабіваецца вялікіх поспехаў. Пасля хацеў бы многа чытаць, а можа і нешта напішу.

***— Дзякую за размову і жадаю задавальнення з таго, што будзеце рабіць на пенсіі.***

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

**PS.** На пасаду дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў выніку конкурсу была выбрана раней шая намесніца дырэктара школы Яўгенія Васілюк, якая ўступіла на пасаду 1 верасня гэтага года. Жадаем поспехаў.

## Па „Ніву” ў募Нараўку

Пад вечар 27 ліпеня г.г. я паехаў роварам з Ляўкова ў Нараўку, каб купіць 31 нумар „Нівы” ад 29 ліпеня. У краме ГСу пры помніку ды побач скрыжавання вуліц Гайнаўскай і Міцкевіча беларускага штотыднёвіка не было ў продажы. У краму зайшоў Мікалай Варанецкі з Альхоўкі, які таксама хацеў купіць „Ніву”. Ён прыехаў на аўтамашыне і па родную газету паехаў... у Гайнаўку. Ну, усё ўсім, але каб па „Ніву” ехаць 18 кіламетраў?

У „Ніве” № 31 ёсць цікавае інтэрв'ю з Аляксандрам Бандаруком, загадчыкам керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове і з Агнешкай Карыткоўскай-Мазур, новай дырэктаркай беластоцкага Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі, а таксама між іншым весткі з Нараўчанскай гміны (допісы М. Варанецкага і Я. Целушэцкага).

Я маю надзею, што ў жніўні распаўсюджвальнікі газет і часопісаў „Рух” і „Kolporter” будуць дастаўляць „Ніву” ў тры крамы ГСу ў Нараўцы. Пастаянныя чытачы адзінага беларускага тыднёвіка ў Польшчы павінны зрабіць падпіску і тады кожны тыдзень прынясе яго лістаноша.

## „Перапёлка” на полі ў Новым Ляўкове

У суботу, 21 ліпеня г.г., на поле са спелым жытам Уладыслава Грыкі ў Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) прыехалі коннай фурманкай касцы з косамі і граблямі ды жнеі ў белых хусцінах на галаве. Касцы касілі косамі з каблукамі, абшытымі палатном, а жнеі жалі сярпамі. Так як калісьці бывала. Вязалі пярэвяслы, а снапы вязалі жарабіком. Паставілі „шапкі” (10 снапоў) і „ляшкі” (12 снапоў).

Збожжа спраўна касілі Канстанцін Целушэцкі і Барыс Казлоўскі з Новага Ляўкова. Скошанае імі жыта падбіралі Людміла Казлоўская, Ядвіга Целушэцкая, Марыя Целушэцкая і Альжбета Кунцэвіч. Ставіць „ляшкі” прыйшлі жанчыны і Міхал Харкевіч з калёніі Старога Ляўкова. Усю ніву дакасілі снопавязалкай Ян Стоцкі з сынам. Жанчыны зрабілі адмысловую „перапёлку”, спявалі прытым беларускія жніўныя песні з даўніх часоў. Затым жнеі аблівалі вадой адна другую і касцоў.

Уладыслаў Грыка запрасіў усіх на абед у полі. Ён прывёз адмысловую ежу са сваёй агратурыстычнай гаспадаркі ў Сушчым Барку. Частаваў вэнджаным кумпякам, хлебам са сваёй печы, віном дамашняга вырабу, салодкімі хлебабулачнымі вырабамі.

Варта адзначыць, што арганізатарамі абрадавага мерапрыемства „Перапёлкі” былі Галена-Марыёля Рээнт, Альжбета Кунцэвіч і Уладыслаў Грыка. „Перапёлку” здымалі на камеру журналісты Беластоцкага тэлебачання і стараляўкоўскі кінааператар Юрка Равінскі ды запісвалі на магнітафон журналісты Польскага радыё Беласток і Радыё Рацыя.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Тадэвуш Кунцэвіч: Падляшша — мая старонка



Міра ЛУКША

Тадэвуш Кунцэвіч (1951 год нараджэння) жыве ў вёсцы Лешукі ў Нараўчанскай гміне, Гайнаўскага павета, Падляшскага ваяводства. Ляснік і настаўнік. З'яўляецца народным паэтам пішучым пабеларуску, прызнаным і вельмі папулярным у асяроддзі, ахвотна прымаючым удзел у мясцовых культурных мерапрыемствах, выступаючым у школах, святліцах і на прадпрыемствах. Ягоныя творы, прысвечаныя шмат якім асобам вядомым у асяроддзі, кранаючыя тэмы блізкія атачэнню — вельмі папулярныя сярод жыхароў Лешукоў, Старога і Новага Ляўкова ды ўсёй Нараўчанскай гміны. Кружаць яны ў копіях, жыхары вывучаюць іх на памяць. Вучні школ у Нараўцы дэкламуюць вершы і гавэнды на беларускіх конкурсах „Роднае слова” і „Гавэнда”. У зборніку „Падляшша — мая старонка” змешчаны тэксты для дзяцей, патрыятычныя, сатырычныя, аб прыродзе Белавежскай пушчы і навакольля, аб незвычайных людзях Падляшша, між іншым такіх як Тамара Саланевіч, архіепіскап Міран Хадакоўскі. Напісаны яны на прыгожай, багатай беларускай мове, на высокім літаратурным узроўні. Зборнік „Падляшша — мая старонка”, выбар найлепшых вершаў Тадэвуша Кунцэвіча — прыгожы падарунак вёсцы Лешукі, вучням Пачатковай школы і Гімназіі ў Нараўцы і ўсім жыхарам Нараўчанскай зямлі, якія ганарацца сваім паэтам, чые свойскія вершы захоўваюць у памяці і дэкламуюць пры розных нагодах.

Сустракаемся з аўтарам новай беларускай кніжкі ў Новай Волі Міхалоўскай гміны з нагоды I Дабрачыннага паўмарафона, які стаў пры нагодзе, а лепш па задуме арганізатараў народным беларускім фэстам. Тадэвуш Кунцэвіч з кнігай „Падляшша — мая старонка” апынуўся сярод беларускіх аўтараў і мастакоў, якія сваёй прысутнасцю аздобілі імпрэзу. З таго часу, як ягоныя творы паявіліся ў „Ніве” (пачатак 2011 года), напісаў ён шмат вершаў і вельмі часта выступаў перад слухачамі не толькі ў роднай Нараўчанскай гміне.

— Адно я замеціў на маіх спатканнях з людзьмі, — тлумачыць паэт. — Цаню нашу „Ніву”, што друкуеце, цаню радыё, тэлебачанне, але даражэй мне спатканні ў жывыя вочы са слухачамі. Я на гэтых сустрэчах прыкмячаю, што людзі хочуць слухаць. Ці патрыятычныя якіясь вершы, ці пра пачуцці. І дайшоў я да вываду, што пераважна любяць жартоўныя вершы. І ўсмешка на тварах паказваецца, і зараз апладысменты большыя, цікавеюць людзі. Дык я цяпер больш увагі звяртаю на вясёлыя вершы. Мала або зусім не пішу пра войска, хаця гэтая тэма мяне захапляла. Сына маю афіцэра, ужо быў на трох місіях: у Косаве і на дзвюх у Афганістане. Колькі гэта каштавала нерваў — адно пстрыкаў па каналах у тэлевізары, што там робіцца, ці хоць там нічога з імі не зрабілася, каб якаясь біда там не выйшла. І так як я калісь любіў мундзір, хацеў вайсковым быць, так мне адхацелася. Напісаў я апроч таго вершы для дзяцей. Маю ўнучку маленькую, Тоську, як яна любіць, як я ёй чытаю! Чытаю па-беларуску, рот разявіць і слухае. Ці ўсё разумее, не ведаю, але за дзедавымі вершамі аж дрыжыць... Я цяпер што раблю? Я цяпер беспрацоўны. З такой надзеяй мы ў Лешуках жылі, што тут фабрыку пабудуюць, мелі 60 асоб на працу прыняць. Як на Лешукі, было б гэта вельмі добра. Але як пабудавалі, зачынілі будынак, так стаіць. Мелі мэблю рабіць. Нейкі чалавек з Варшавы, пабудаваў фабрыкі і ў Сілезіі, і ў Варшаве, і тут у нас, і на Міхнаўцы купіў пляц, яшчэ хоча будаваць. Нічога не вырабляе, а, кажуць, карыстае на тым, што бярэ датацыі. Будуе і зачыняе. А няма нам дзе ісці на працу. У маім узросце ўжо не паедзеш у нейкае прадпрыемства далей ад хаты. Бо і сям'я, і ў хяце абавязкі. Пенсіі не маю. У апошні час працаваў я на кераміцы ў Ляўкове. Бралі на працу на тры месяцы, працягвалі дамову на месяц, была ўрэшце рэдукцыя, і трэба было адысці. Браў на працу яшчэ войт, да інтэрвенцыйных работ. Я пераважна ездзіў з дзяцьмі апекуном, на школьным аўтобусе...

Задумаўся. Працягвае:

— Гэтае выданне кніжачкі мне падабаецца. Шрыфт харошы. Зараз і пайшла па руках. Першы заказаў яе ў мяне Алёша Харкевіч, занёс я яе Аліку, сыну Шуры Харкевіча, доктару, што са Шчэціна прыехаў, і Эме, і Нэлі... Кожны сусед хацеў мець кнігу. Добра, што жонка хоць адзін экземпляр схавала... У апошні час я меў сустрэчу ў Трасцянцы Нарваўскай гміны. Людзі хацелі набыць кнігу і былі расчараваныя, што ў мяне яшчэ тады не было. Тлумачыўся, што мая кніжка якраз выдаецца, але я яе не буду прадаваць: „Я томік спецыяльна ахвярую, як буду ехаць у Нарву, заеду ў Трасцянку ў святліцу, пакіну вам”. Хочуць чытаць — хай чытаюць. Гэта мяне мабілізуе да яшчэ большай работы. Быў я ў найбліжэйшых вёсках — у Ляўкове, Міхнаўцы, Семяноўцы, Ахрымах... І ў Гайнаўцы, у Трасцянцы... Чакалі мяне ў Міхалове — дырэктарка ГАКу не магла дачакацца маёй кніжкі. Праз тыдзень буду мець сустрэчу з чытачамі ў Нарве... Калі Галена-Марыля Рээнт (ад выдаўца зборніка — Згуртавання „Ятрышнік” у Міхнаўцы) прывезла маю кніжку, я не ў хаце, а пад хатаю сеў, аж закурыў, і яшчэ раз усю прачытаў. Хаця гэтыя вершы на памяць ведаю. Я вельмі рады, што кніжку маю. І ў Лешуках людзі бачаць: дэкламаваў свае вершы на сустрэчах, на нейкіх маёўках, а калі ўбачылі, што ўжо кніжка ёсць, дык сур'ёзна сталі адносіцца да аўтара. Не нейкі я ўжо камедыянт, што гаворыць нейкія часам падсоленыя жартачкі. Мару выдаць кніжку пра чатыры поры года. Вершы пра вясну, лета, восень і зіму, у чатырох раздзелах.

— Падобную ідэю мае Галіна Бірыцкая з Плянты з вашай гміны, якая хоча вышыць ручнікі пра поры года, і да іх каб былі вершаваныя радкі. У вас ёсць верш у зборніку пра вышываны ручнік. Томік павінен мець сваю яднаючую канцэпцыю. Можа, пасупрацоўнічаеце? Вось там яе ларок, — паказваю на багата падрыхтаваны стэнд плянтаўскай рукадзельніцы.

— Якія пытанні гучаць на сустрэчах? На розныя тэмы, пра ўсё пытаюцца, — працягвае Тадэвуш. — Калі мяне не ведаюць, прадстаўляюся, коратка кажу сваю біяграфію, распавядаю пра школы, працоўны шлях, сям'ю. А калі пішу? Як з натхненем? Бывае, што ў першую гадзіну ночы зрываюся, хапаю за акуляры і самапіску, каб больш-менш накінуць штрых. Бо думка прыйдзе і праз сон. Пасля тое развіну, дапрацую. Жонка кажа часам: „Здурэў, людзі ноччу спяць, а гэты зрываецца, піша!”. Пакуль я стану пісаць, адчуваю, што маю патрэбу пісання, верце мне: я сядаю, бяру свой рукапіс, і ўчытваюся ў свае вершы. Я іх некаторыя чытаў па пяцьдзесят, па сто раз. І прыходзіць і да мяне творчая думка, уваходжу ў тэму, рыфму. „Так-так-так!” — так можна толькі дрэва рубаць, узяўшы сякеру. Я ўводжу ў творчы стан сваю думку, і мне пішацца. І мне цешыць тое, што кажуць, што я свае вершы ўмею перадаць. Кажа сяброўка: „Сама чытаю твой верш некалькі раз, але калі ты дэкламуеш, гэтак пераканаўча перадаеш змест і настрой, што лепш не трэба”. Я, калі быў малады, а мая цешча была з Лявонавіч, дзе гавораць „па-зарэчанску”, чыста па-беларуску, мог нават перакрывіць іхнюю гаворку. Цяпер мая жонка жартуе: „Бачыш, калісь маму перакрыўляў, а цяпер пішаш па-зарэчанску!”.

У маёй кнізе ёсць прысвячэнні. Якія людзі ў маім жыцці мяне кранулі? Вельмі цаню Тамару Саланевіч, Алеся Баршчэўскага. А з гэтага спаткання ў Беластоку, што было на завяршэнне агульнапольскага беларускага літаратурнага конкурсу „Дэбют”, я да канца жыцця запамятаю, што сказаў рэдактар Яўген Вапа на маю тэму. Ён прадстаўляў кожнага ўдзельніка конкурсу, які пасля чытаў свае творы. Рэдактар сказаў такое: „З гэтых старон я цаню тры асобы: Алеся Баршчэўскага, Тамару Саланевіч і Тадэвуша Кунцэвіча!”. Ну, людзі, думаю, жартуе. „І калі маем у „Ніве” друкаваць верш Кунцэвіча, мушу спачатку сам яго прачытаць. І сам пасміяцца, калі ён жартаўлівы”. І мне дало гэта яшчэ большы імпульс да творчасці.

# Прыгоды ніўскай майкі




Сяргей ЧЫГРЫН

Нядаўна быў я ў Беластоку, забег у „Ніву", дзе атрымаў у падарунку майку з надпісам „Толькі скнара і лянівы не выпісывае «Нівы»". Файная майка: прыгожая, мяккая, яркая. Прыехаў у Слонім, апрануў майку і думаю: пайду прайдуся пяшком па горадзе — на людзей пагляджу і сябе ім пакажу.

Іду паціху са свайго мікрараёна ў цэнтр горада. Не спяшаюся. Тым больш, што надвор'е сонечнае, нават спякотнае, ціхае, лагоднае.

Здалёк пазнаю былога райвыканкамаўскага работніка-пенсіянера. Калі працаваў у райвыканкаме, дык павітаецца і адразу ўцякае ўбок ці пераходзіць вуліцу. А калі пайшоў на пенсію, яшчэ здалёк стаў вітацца, альбо падбяжыць, спытае як справы, як жыццё, што пішацца? Так і хоча пагутарыць пра жыццё-быццё. Толькі вось мне з ім не вельмі цікава гутарыць, разважаць. Але ж не адгоніш чалавека ад сябе, як ката ці сабаку. І на гэты раз вітаецца здалёк. Але, бачу, найперш вочы бегаюць па тэксце майкі.

— Ого, дзе ты такую майку набыў? — пытаецца былы вертыкальшчык і дадае, прачытаўшы: — А цябе за такую майку не пасадзяць за краты?

— Не, не пасадзяць. Я скажу, што ты даў і ўсім раздаеш такія майкі!..

Спалохаўся былы вертыкальшчык. Паверыў. А потым кажа:

— Я да гэтай майкі ніякага дачынення не маю. Што ж ты прыдумаў?! У нас за ўсё могуць пасадзіць.

— Сапраўды, могуць. Саджаюць жа за сцягі, плакаты, артыкулы ў газетах. Так што глядзі, нават не паглядзяць, што працаваў у райвыканкаме ў ідэалагічным аддзеле. Дадуць гадоў пяць і будзеш кукаваць і пенсію могуць забраць, — палохаю пенсіянера.

— А ну цябе і з тваёй майкаю, пайшоў я. Пакуль! — сказаў былы чыноўнік і пабег.

Іду па вуліцах Слоніма далей. Як з-пад зямлі „вырас" знаёмы міліцыянер. Мы іх у Беларусі міліцыянерамі не называем, а проста „мянтамі". Малады мент вітаецца і чытае тэкст на майцы, а потым задае пытанне, яны ж іх умеюць задаваць:

— А хто такі скнара?

— Скнара — гэта ў перакладзе на сучасны слэнг азначае „дэбіл". Зразумеў?

— Дык што ты хочаш сказаць, што, калі я не чытаю „Нівы", дык я — дэбіл?

— Я ж не сказаў, што ты — дэбіл, я проста пераклаў табе слова „скнара".

— Ха-ха. І што гэта за „Ніва"? Гэта тая, што ў Вільні некалі выдавалася?

— Ды не. Там выдавалася, а цяпер выходзіць у Менску „Наша ніва", а гэта „Ніва" — тыднёвік беларусаў у Беластоку.

— А што, у Беластоку беларусы жывуць?

— Вядома. Гэта ж наш беларускі горад, які Сталін некалі падараваў Польшчы.

— Чаму ён яшчэ Слонім наш не падараваў палякам, то хоць жылі б, як людзі. А цяпер мы апынуліся ў балоце. Нават з мянтоўкі пачалі людзі звальняцца. Ты ўяўляеш — з мян-тоў-кі!

— Няўжо вам там усім дрэнна?

— Гэта доўга расказваць. Ды і заробак вельмі малы. Таму і ўцякаюць хлопцы. Ведаеш што, дай ты мне пачытаць тую „Ніву", калі ёсць з сабой — а то насамрэч я дэбіл у гэтых пытаннях.

Дастаю з сумкі „Ніву" і пакідаю менту. Ён яе бярэ і хуценька хавае ў сваю сумку. Мы развітваемся.

Іду далей. Каля рынку сустракаю знаёмую кабету. Галоўным бухгалтарам працуе на адным з прадпрыемстваў Слоніма. Вітаемся. У вочы мне не глядзіць, а чытае тэкст.

— І ты не баішся ў такой майцы хадзіць па горадзе? — пытаецца.

— А што тут небяспечнага? — здзіўляюся я.

— Ну-у-у! Па-беларуску... Гэта ж — не „Советская Белоруссия"...

— А ты выпісваеш і чытаеш „Советскую Белоруссию"?

— Застаўляюць на рабоце яе выпісваць.

— Вось тым, хто чытае „Советскую Белоруссию", таксама такія майкі прышлюць і заставяць у іх хадзіць на працу. Той, хто не будзе іх апранаць — застанецца без работы. Будзе як у Паўночнай Карэі.

Жанчына здзіўляецца:

— Няўжо? Дзе ты такое чуў? Я не чула...

— Як не чула? Ужо некаторыя ходзяць у „Советской Белоруссии". Хутка чарга дойдзе і да вашай фабрыкі, — працягваю жартаваць з жанчынай.

— Учора была планёрка, дырэктар нічога на гэты конт нам не казаў, — сур'ёзна адказвае кабета.

— Дырэктар баіцца, што яму не хопіць майкі з „Советской Белоруссией", вось і маўчыць, — працягваю жартаваць, хаця знаёмая ўсё ўспрымае вельмі сур'ёзна.

— Я заўтра спытаю ў дырэктара пра гэта, абавязкова спытаю, — паабяцала, развітваючыся, сланімчанка.

— Ведаеш што, калі не хопіць савецка-беларускіх маек, я ўсім работнікам падарую такую майку, як у мяне, — толькі і паспеў сказаць ёй услед...

Крочу далей. Наперадзе насустрач ідуць жанчына з дзяўчынкай-школьніцай. Здалёк дзяўчынка чытае: „Толь-кі скна-ра і ля-ні-вы не вы-пі-сы-вае „Ні-вы"!". Чую, дзяўчынка просіць у маці:

— І я хачу такую майку!

Маці, прайшоўшы побач, адказвае:

— Цябе з такою майкай у школу не пусцяць.

Дзяўчынка змаўкае.

Спынялі мяне яшчэ некалькі знаёмых людзей і ўсе пыталіся пра майку. Праўда, дамоў пяшком я не пайшоў, выклікаў таксі і паехаў. Калі прыехаў у свой мікрараён і, разлічыўшыся выходзіў з машыны, таксіст, гледзячы на майку сказаў:

— Хоць адзін чалавек апрануў нармальную майку, а то ходзяць у нейкіх інастранных, што там напісана на іх — хрэн паймёш.

— Дзякуй за камплімент майцы! — сказаў я таксісту і паціху пайшоў да свайго дома. І трэба ж было ля самага пад'езда сустрэць суседа, жывем у адной шматпавярхоўцы. Ён шчыра вітаецца і, прачытаўшы на майцы тэкст, кажа:

— Падары мне сваю класную майку, а?!

Я скідаю майку і аддаю суседу. Ён здзіўлены. Пры мне мужчына здымае сваю чорную майку, на якой напісаны чатыры літары: СССР, выкідвае ў сметніцу, апранае маю, мы ціснем адзін аднаму рукі і разыходзімся...

На днях бачыў суседа ў ніўскай майцы. Сядзеў з мужыкамі каля пад'езда і піў піва.

## Кляшчэлеўскія святкаванні

У суботу 4 жніўня адбыліся XVI святкаванні Дні Кляшчэляў. У 10 гадзін на стадыёне „Орлік" пачаўся футбольны турнір за кубак бурмістра горада. За прыз змагалася шэсць футбольных каманд — пяць з Кляшчэляў і адна з Чаромхі. Перамаглі госці вынікам 2:0. Дзве гадзіны пазней на мяжуючай з рынкам пляцоўцы праводзіўся паказ стральбы з лука. Перш-наперш прэзентаваўся Міхал Санчанка, ураджэнец Кляшчэляў, чэмпіён свету па стральбе з лука да рухомых аб'ектаў. У час язды на кані меціў у шчыт, за якім скрываўся чалавек. Дэманстрацыя закончылася паспяхова і выклікала ў прысутных шмат эмоцый. Публіка ўзнагародзіла выступ бурнымі воплескамі. Пасля быў аб'яўлены конкурс на найлепшага стральца. Заявы ўдзельнічаць у спаборніцтве прад'явілі некалькі дзесяткаў чалавек — ад дзетак па мужчын сталага ўзросту. З-за абмежаванай колькасці ўзнагарод арганізатары перамянілі прынцыпы конкурсу. Дазволілі паказаць стралецкія ўмеласці кожнаму ўдзельніку, але без вылучэння пераможцаў і прызначэння ўзнагарод. Паказ доўжыўся да таго часу, пакуль пазіцыю не апусціў апошні стралец.

У 19 гадзін пачалася мастацкая частка. Перад публікай выступіла плеяда гуртоў: „Kackiller" з Гайнаўкі, „Растение мудрости" з Брэста, „Vshood" і „Miss God" з Беластока, „Rooster" з Лукова, танцавальныя групы „Majestic Gravity" і „Just Do It" з Кляшчэляў і вакальны гурт „Power of Color" з Чаромхі. Канцэрт быў цёпла ўспрыняты публікай. Пасля кожнага нумара чуліся працяглыя воплескі. Мастацкая частка доўжылася да позняга вечара.

Урачыстыя святкаванні працягваліся і ў нядзелю 5 жніўня. Пачаліся ў 15 гадзін з кірмашу народнага рукадзелля. Побач дзейнічаў куточак для малеч. Атракцыёнам для дзетак было размалёўванне твару. Вялікім поспехам карысталіся настольныя гульні. Дарослыя ў тым часе глядзелі канцэрт. Першымі на сцэне выступілі мясцовыя гурты „Фантазія" ды „Мікстуркі". Пасля пачаўся беларускі блок. У ролі суарганізатара мерапрыемства выступіла БГКТ, якое задбала пра падборку калектываў. А выступалі „Каласкі", „Калінка", „Крыніца" і „Лайланд" з Беластока, Падляшская капэла з Сямятыч, сямейнае трыо з Макаўкі, „Сваякі" з Мазыра ды „Мікстура" з Гарадскога асяродка культуры ў Кляшчэлях. У час канцэрта праводзіўся конкурс ведаў аб Кляшчэлеўскай гміне. Былі, вядома, падарункі. У ролі вядучых выступілі Малгажата Зубік і Дар'я Хшаноўская. Гітам вечара аказаўся выступ аркестра з дзевяці чалавек з Кельцаў, які прэзентаваў музыку рэгэ. Затым пачаліся народныя танцы. Забава доўжылася за поўнач. І працягнулася б да ранку, калі б не дождж. Сыпнуў неспадзявана, затым перамяніўся ў лівень. Публіка вымушана была закончыць гулянку. Нягледзячы на гэта XVI Дні Кляшчэляў лічацца ўдалым мерапрыемствам.

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Будзьма з „Зоркай”!



Фота Ганны Кандрацюк

Пачатак школьнага навучальнага года заўсёды вяжацца з новымі марамі, планамі, спадзяваннямі. Мы самі абяцаем падцягнуцца ў навуцы, хадзіць на гурткі зацікаўлення, займацца валанцёрствам. Словам, хочам быць лепшымі.

Наша рэдакцыя — таксама! Разам з пачаткам новага года будзем інфармаваць вас пра новыя падзеі ў свеце беларускага школьніка. А тут стольві, што проста не расказаць. Па-першае, наш круг выдатна пашырыўся. Расце колькасць навучэнцаў беларускай мовы ў Беластоку ды не толькі. Беларускія песні, народныя святы, вышыванкі ўсё больш модныя і пажаданыя. Ёсць таксама група людзей, якая хоча свядома і разумна ўдзельнічаць у жыцці беларусаў. Між іншым таму ходзім на ўрокі беларускай мовы, вывучаем грамату і гісторыю. Бо асновай культуры, пра што добра ведае чытач „Зоркі”, з’яўляецца мова.

І галоўнае, наша мова адраджаецца. Вось, разам з пачаткам новага года, пасля многіх гадоў, у Міхалове пачаліся ўрокі беларускай мовы. На іх запісалася аж 121 вучань з пачатковай школы і гімназіі. Што гэта значыць для нас усіх? Вельмі многа! Напэўна сустрэнемся на беларускіх конкурсах. Можа прыйдзецца нам змагацца на беларускіх турнірах у валейбол або супольна пачнем ладзіць рэйды, экскурсіі, пілігрымкі (у народных вышыванках!).

Цудоўна, калі самі вучні ўмеюць напісаць пра сябе. Цягам апошніх двух месяцаў мы друкавалі плён працы дзяцей, якія ўдзельнічалі ў 26 Сустрэчах „Зоркі”. Гэтыя, здавалася б, простыя допісы часам выклікалі пасьлядоўнасці родам з фантастычнай казкі. Вось, у дзень, калі выйшаў артыкул „Патрабавальныя бацькі”, тэлебачанне яшчэ раз прадэманстравала сюжэт, прысвечаны нашым героям. Той, хто чытаў „Зорку”, ужо крытычна глядзеў на *выпраўленых* герояў ды ведаў пра іх больш, чым трэба...

У бок маладых аўтараў я пачула шмат цёплых, прыгожых слоў, таму нашу ідэю, каб прыручаць дзяцей да пісання (і чытання — бо гэта сёння вялікая праблема!) будзем развіваць і працягваць. Будзем далей ладзіць тэматычныя і моўныя конкурсы, прэзентацыі нашых выдатнікаў і арыгіналаў, пакажам, што адбываецца ў беларускім свеце і ў іншых народаў. Хочам таксама паказаць поспехі беластоцкай моладзі з Аб’яднання АБ-БА, якая ў жніўні паказвала беларускі спектакль у ЗША. Ага... Спецыяльна для ўдзельнікаў конкурсаў мы прыдумалі новыя рэчы з эмблемай „Зоркі”. Тады будзьма разам увесь новы школьны год (ды не толькі), сябры!

## Гараскоп на новы навучальны 2012/2013 год

**Казярог ( 23.12 - 20.01):** У верасні захопішся матэматыкай. Глядзі, каб увесь год сістэматычна рашаць усе хатнія задачы. Пабачыш, як просты, зразумелы і цікавы гэты „цяжкі” прадмет. У час зімовых канікулаў пазнаёмішся з асобай, якая будзе цябе матываваць да прыгожых планаў і самаразвіцця. У час гэтай сустрэчы вельмі спатрэбяцца твае веды па матэматыцы! Памятай, не пі на перапынках энергетычных напіткаў. Лепш перад кожнай задачай сядзь і падумай, наладзь кантакт са сваёй галавой.

**Вадалей (21.01-19.02):** У першай палове года ахіне цябе запал і энтузіязм да вучобы. Пасля прыйдзе спакуса, каб заняцца яшчэ ігрой на бубнах або нейкім саломапляценнем. Адлажы гэта на час канікул. У вольны час лепш дапамажы бацькам, прыбяры свой пакой, займіся спортам. Ад кастрычніка добры час на вывучэнне замежных моў! У лютым сустрэнеш сваё каханне. Дбай пра гігіену і свой выгляд.

**Рыбы (20.02 -21.03):** Перамажыш сваю ляноту і соннасць. Твае праблемы пачнуць вырашацца дзесьці пад канец снежня. У час Каляд чакае цябе многа сустрэч і сюрпрызаў. У чэрвені заваюеш поспех у навуцы, зразумела, калі раней пераможаш ляноту і соннасць. Нехта блізкі з тваёй сям’і цяжка захварэе, умей быць дапаможным у цяжкі час. Яшчэ сёння названі сваёй сімпатыі, яна чакае твайго званка.

**Баран (22.03-20.04):** Твае ворагі страцяць зубы і рогі! Усё адменіцца ў лепшы бок. Праз першае паўгоддзе будуць праблемы ў школе, аднак ты не падай духам. Пасля пачнецца ладзіцца ў школе і ў асабістым жыцці. Не займайся плёткамі і не прымушай сяброў, каб ішлі з табой на прагул...

**Бык (21.04-21.05):** Твой найлепшы сябра сядзе за парту з тваім ворагам. Не хвалюйся. Пасля нейкага часу ты зразумееш, што гэта быў падарунак лёсу. Дзякуючы новаму сябру ўрэшце прачнешся, пачнеш вучыцца. Спачатку будзе цяжка і нецікава, але вясной усё пераменіцца. У сакавіку, як гром з неба, праб’е тваё сэрца страла Амура. Будзе цудоўна.

**Блізняты (22.05-22.06):** Неўзабаве чакае цябе вялікі прыток грошай. Не растраць іх без толку і патрэбы. Усе будуць хацець з табой пасябраваць, увайсці ў суполку. Памятай, тыя сяброўствы закончацца разам з тваёй касай. У каханні застой, гэта дарэчы дапаможа падцягнуцца ў навуцы. Памятай, на адным шчасці не будзеш ехаць да канца.

**Рак (23.06-23.07):** Урэшце будзеш займацца сваімі справамі. Твае здольнасці прыкмецяць і дацэняць дарослыя і сябры. Скарыстай, калі атрымаеш новыя прапановы. Не пакідай сваёй звычкі, чытай кніжкі і хадзі ў кіно. У гэтым школьным годзе шчасліва закахаешся і ўсе зоркі будуць спрыяць табе і тваім дзеянням. У чэрвені паедзеш на цудоўную экскурсію.

**Леў ( 24.07- 23.08):** У тваёй школе ўзнікне група новых „лянсэраў” і ты будзеш злосны, што ўвага вучняў не будзе накіравана ў твой бок. Але не перажывайся. Цягам аднаго месяца усё вернецца на свае кругі — ты зноў будзеш у цэнтры. Добры час у фінансах. Трымайся старой сімпатыі, лепшай нідзе не знойдзеш. І будзь больш ветлівы для настаўнікаў!

**Дзева (24.08-23.09):** У снежні захварэеш, не пойдзеш у школу. Гэты час будзе для цябе цяжкі, але і прыемны. Твае сябры будуць прыходзіць пасля урокаў і распавядаць, што здарылася на перапынках. У гэтым годзе можаш дасягнуць поспехаў у прадметным конкурсе. Памятай, каб не сядзець усю ноч перад камп’ютарам!

**Шалі (24.09-23.10):** Плануй кожны свой дзень, многа часу прапускаеш праз пальцы, таму не паспяваеш з усім. Старайся не хваляваццa перад кожнай кантрольнай, гэта мяшае засярodзіцца і напісаць тое, што вывучыў і ведаеш. Хадзі на басейн. У справах пачуццяў многа прыгожых хвілін. Памятай, каб не гаварыць з сяброўкамі пра яду.

**Скарпіён (24.10-22.11):** Не чаруй, толькі пачні вучыцца. Не забывай пра гігіену. У лістападзе чакае цябе цудоўны сюрпрыз, нехта нечакана з’явіцца ў тваім доме. А пасля ў снах. Памятай, каб кожны дзень прагулацца са сваім сабачкам, не скідай гэтай задачы на малодшага брата. Дапамагай бацькам.

**Стралок (23.11- 22.12):** Пасля доўгага адпачынку вазьміся ўрэшце за навуку. У цябе больш здольнасцей, чым думаюць настаўнікі. Здзіві іх сваімі ведамі, а не сваімі жартамі, якія папраўдзе нікога не смешаць. Будзь шчыры з сябрамі і дарослымі. Сябры будуць любіць цябе яшчэ больш. А каханне дадасць крылаў і заставіць думаць пра будучую прафесію і дом.

# Мова ў Міхалове — усе пра яе гавораць!

— Цяпер мару, каб як вывучыць беларускую мову, — прызнаецца Куба Монах з Міхалова. Пра свае зацікаўленні хлапец кажа: *ензыкі обцэ...* і спорт. Праўда, з-за апошняга захаплення ён паламаўся і цяпер носіць руку ў гіпсе. Але ўсё будзе добра! Важна, што пачалася школа, будуць урокі. Ну і белару-





ская мова, пра яе ўсе гавораць — і дарослыя, і вучні. Куба прызнаецца, што беларуская мова для яго не такая ўжо *обца*.

— Бо так размаўляюць часам мая мама, бабуля, — кажа.

У разумных вачах хлапчука мы пабачылі спадзяванне на прыгожую прыгоду.

3 верасня г.г. у школе ў Міхалове святкавалі дзве нагоды. Тут аб'ядналі пачатковую школу і гімназію ў комплекс школ, ды пачалі навучанне беларускай мове. На ўрокі запісаліся 121 асоба. З амаль усіх класаў — з другога падставовай школы па другі клас гімназіі.









— Адкуль думка?

— Можна сказаць, што ідэя прыйшла разам з супрацоўніцтвам са школай у Ваўкавыску, — кажа Ян Лукша, дырэктар Комплексу школ. — Яны прыязджалі да нас, жылі па прыватных дамах. Мы часам не маглі дагаварыцца з-за моўных бар'ер, то падумалі, каб вывучаць беларускую мову ў школе.

Думка захапіла самых вучняў. Калі пусцілі па класах спісак, аказалася, што зацікаўленне перайшло ўсякія спадзяванні. У кожным класе былі многія ахвотныя, ды спісак усё папаўняўся. У такой абстаноўцы ўсё атрымалася надзейна. Навучанне, што адчувалася на кожным кроку, было арганізаванае на пазітыўных эмоцыях, са зразуменнем і выклікам часу...

Комплекс школ у Міхалове — гэта найбольш жывое месца ў гміне. Тут кожны дзень сустракаецца да паўтысячы малых, маладых і дарослых людзей. Варта дадаць, што патронам гімназіі з'яўляецца доктар Лешак Нос, мясцовы настаўнік і даследчык гісторыі гміны, а патронам падставовай школы — Уладзіслаў Сыракомля, польска-беларускі паэт XIX ст.

Сярод настаўнікаў мы сустрэлі вядомую чытачам „Зоркі" Альжбету Раманчук. Спадарыня Альжбета будзе навучаць беларускай мове ў Міхалове. Настаўніца не хавала хвалявання, бо ніколі не было ў яе аж столькі вучняў. Паводле спіска, у некаторых класах будзе больш за дваццаць вучняў. Гэта сапраўдны выклік:

— Я паспела ўжо скласці аўтарскую праграму для ўсіх класаў, — кажа. — Напэўна, дапамагае вопыт. І сімпатычнасць, з якой тут гавораць пра беларускую мову.

— А з чаго пачнеце?

— Вядома, з літарак!

— А далей?

— Далей у нас шмат-шмат планаў. А галоўнае: будзем рабіць усё, каб не змарнаваць такога вялікага энтузіязму!

Сапраўды, вестка пра беларускую мову была паўсюднай і сімпатычнай. Пра яе гаварылі школьнікі, бацькі, настаўнікі, бурмістр, бацюшка. Тэма здавалася пажаданай і доўгачаканай. І нават моднай. На пляцы перад будынкам чуліся такія размовы-самахвальствы:

— A ja dałam wywiad do Radia Racja!

— A ja do gazety białoruskiej!

**ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 37

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 32: Лета, толк, возера, мі, канікулы, норка, так, сатыр. Вінаград, том, позірк, лек, Ас, круг, ало, ер, ты, Аліцыя.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Witka | | No | Mapa | Krój | Kret | | Skrzela | |
| | | | Brat | | | | | |
| Pan / Zubr | | | | | Sfera | | | |
| | | Wrzost / Kino | | | | | Woda | |
| Za | Odlot, uniesienie | | | | | Wół | | |
| Hit | | | | Ewa | | | | |
| Krok | | | Bród | | | | | |
| | | | | Allah | | | | |

# Вялікія спевы ў Семяноўцы

9 жніўня ў Семяноўцы, што ў Нараўчанскай гміне, заўсёды людна. Там заўсёды людна ў дзень святога Панцеляймона. З такой нагоды гмінная ўлада падрыхтавала ў Семяноўцы народны фэст, які пачаўся а чацвёртай гадзіне пасля поўдня.

Нягледзячы на халоднае надвор'е і кароткачасовы дождж, прыехала сюды шмат людзей, каб паглядзець выступленні мастацкіх выканаўцаў з Варшавы, Беластока і Нарвы.

Вельмі рэдка на вясковую сцэну прыязджаюць прафесійныя спевакі і музыкі. Гэтым разам наведаў Семяноўку вядомы ў краіне тэнар Міхал Скепка, а таксама яго госці: сапрана Аляксандра Красова-Вахоўская і інструментальны квартэт з Гродна.


Фота Янкі Целушэцкага

Дарэчы, спявак Міхал Скепка, які жыве ў Варшаве, паходзіць з вёскі Пасекі каля Семяноўкі. Цэлую гадзіну М. Скепка і А. Красова-Вахоўская (*на здымку*) спявалі па-польску і па-італьянску. У іх выкананні былі арыі з аперэтаў і папулярныя італьнскія песні.

Публіка не шкадавала воплескаў свайму земляку і яго гасцям. Песню *O sole mio* Міхал Скепка спяваў на біс. Развітваючыся з гледачамі маэстра сказаў са сцэны, што ў Семяноўцы пабачыў сапраўдную Еўропу.

Затым вялікую класічную музыку замяніла лёгкая народная. На сцэну з'явіўся беластоцкі вакальны гурт „Калінка", якім кіруе Марыюш Харужы. „Калінка" прыпомніла семяноўскай публіцы вядомыя беларускія, украінскія і польскія песні. Шкада, што гэты гурт спяваў пад акампанемент з фанаграмы, бо людзям больш падабаецца жывы гук.

Пад жывы акампанемент цудоўна выступіў калектыў „Арт-Пронар" з Нарвы. Рэпертуар „Арт-Пронару" цяжэйшы. Артысты-аматары з Нарвы паспяхова спяваюць сучасныя песні беларускіх, расійскіх і польскіх кампазітараў. Дзве маладыя, стройныя спявачкі заваражылі сваім спевам гледачоў. „Миллион алых роз" спявала ўся аўдыторыя, а песню „Адзін раз у год сады цвітуць" з рэпертуару незабыўнай Анны Герман гурт спяваў двойчы.

Адвячоркам чорная хмара засланіла неба і людзі сталі пакідаць пляцоўку. На сцэну паднялася група „Вясна" з фолькавым рэпертуарам пад металічную і празмерна голасную музыку. Як ні старалася салістка „Вясны", яе словы заглушалі дэцыбелы. Старэйшыя людзі не любяць такой металічнай музыкі.

Вялікія спевы ў Семяноўцы закончыліся выступам вядомага на Беласточчыне калектыву „Ас", які спяваў да цямна.

Семяноўка — вялікае сяло, але няма тут вакальнага гурту. Калісьці тут з ахвотай гралі і спявалі „Сямяне", а цяпер ціха-ціха. Адзін пенсіянер напісаў верш:

**У Семяноўцы**

*Вялікі спеў у Семяноўцы быў,*
*Звінелі песні па ўсім наваколлі.*
*Зліліся маладыя галасы*
*З блакітнаю вадой азёрнай.*
*Іх чулі ў Рыбаках і Бандарах,*
*У Пасеках і Навасадах.*
*І людзі думалі-гадалі: хто такі*
*Так галасіста спевы правіць.*
*Не ведалі навокал жыхары,*
*Што спевакі з Варшавы ў Семяноўку*
*Прывезлі оперныя галасы,*
*Каб пець па-італьянску і па-польску.*
*Маэстра Скепка землякам сваім*
*Спевы дарыў высокага вакала,*
*Апладысментаў шчырых ад сямян*
*Атрымалі артысты тут нямала.*
*Італіяй-Еўропай нейкі час*
*Напоўніліся сэрцы ў Семяноўцы.*
*Дожджык крапіў, вецер шумеў,*
*Усміхалася з-за хмары сонца.*

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Там, дзе жывуць анёлы

— Патрэбна дапамога, — кажа добрая знаёмая крынскага калектыву „Заранiца". — Будзем збіраць сродкі на дзейнасць анкалагічнага госпіса ў Новай Волі. Мо прыедзеце з канцэртам?

Яна лепш за ўсіх ведае, што гэта такое сур'ёзная хвароба. Бог злітаваўся і пасля цяжкага выпрабавання назначыў ёй прадаўжэнне няпростай, але ж і захапляючай зямной дарогі. Частыя візіты ў шпіталі паспрыялі яе знаёмству з доктарам Грабоўскім, старшынёй нававольскага Фонду „Падляшскі анкалагічны госпіс". Нядаўні досвед асабістага апакаліпсісу, мабыць, яшчэ больш уразіў і так бязмерна добрую душу гэтай жанчыны. Дапамога хворым і патрабуючым стала важнай часткай ейнага новага жыцця.

Дабрачынны канцэрт быў назначаны напярэдадні праваслаўнага свята Праабражэння Гасподняга. „Заранiца" якраз сур'ёзна рыхтавалася да падарожжа на Святую Гару Грабарку, але ж перапынак у Новай Волі здаваўся быць безумоўным дапаўненнем двухдзённага паломніцтва. Пра госпіс і яго стваральнікаў музыкантк і чулі толькі самыя лепшыя гісторыі, таму і гэтае запрашэнне было для іх неспадзяваным і надзвычай вялікім гонарам. Падрыхтаваўшы невялікую канцэртную праграму і паломніцкую экіпіроўку, рушылі ў дарогу, запыняючыся на хвіліну пры татарскім рэстаране ў падкрынскіх Крушынянах, каб забраць страву, спецыяльна звараную ўдзельнікам Першага дабрачыннага падляшскага паўмарафона. Астатнія кіламетры шляху Крынкі — Новая Воля вялі бязмежжамі Кнышынскай пушчы. Заранічны сродак транспарту, загружаны скрынкамі і падносамі са смакавітай ежай, на момант памяняўся ў малую пякарню, прасякнутую пахам салодкіх чакчакаў, гарачых перакачэўнікаў і духмяных піражкоў. Напрацаваліся крушынянскія кухары. Відаць, і ім неабыякавы лёс хворых і інвалідаў. Колькасць шчодра ахвяраваных страў дазваляла не толькі іх пакаштаваць, але і наесціся дасыта, мабыць, усім удзельнікам мерапрыемства. Роўна апоўдні заранічны экіпаж дабраўся ў назначанае месца. Мерапрыемства было у поўным разгары. Нававольскай вуліцай туды і назад хуткім крокам перамяшчаўся залата-чырвоны ўзвод спартанскіх вояроў, а на часовай сцэне пры ўваходзе ў госпіс красаваліся народныя ўборы выступаючых калектываў. Група маладых удзельнікаў мясцовых тэрапеўтычных заняткаў танцам праяўляла задавальненне з удала наладжанага ім свята. Пляцоўка паступова запаўнялася фіналістамі дабрачыннага паўмарафона, сярод якіх не бракавала і зусім малых дзетак. Гаспадар згаданага цэнтра дапамогі смяротна хворым і інвалідам доктар Грабоўскі прывітаў гасцей з Крынак як добрых, старых сяброў. Павеяла духам адкрытасці і вялікадушнасці. Ён не шкадаваў сваёй увагі і ласкавага слова для падсумавання заранічнага выступлення, а наймалодшую музыкантку Таню ўзнагародзіў спецыяльным памятным медалём. Хаця праграма дабрачыннага мерапрыемства была вельмі напружанай, а колькасць абавязкаў не давала ні хвіліны перадышкі, добры дух — доктар Грабоўскі не думаў адпускаць крынскіх гасцей фізічна і душэўна ненакормленымі. З прыроджанай сціпласцю і шчырасцю запрапанаваў асабіста паказаць і пазнаёміць з дзейнасцю кіраванага ім цэнтра. Ні адзін пакойчык не застаўся закрытым ці недаступным наведвальнікам. Ураўнаважаны і шматфункцыянальны дызайн інтэр'ераў з'яўляўся лепшым фонам для дзвюх незвычайных ікон-ахоўніц, спецыяльна напісаных для госпіса. Выявілася, што адным з аўтараў гэтых святых выяўленняў з'яўляецца чалавек, які пакутуе ад лейкеміі. Спосаб, у які доктар распавядаў пра гэтае месца, здраджваў яго бескарыслівасць і поўную адданасць справе дапамогі бедным і пацярпелым, часам пакрыўджаным лёсам людзям. Ён безумоўна здольны заражаць сваім вялікім энтузіязмам не аднаго напатканага ў жыцці чалавека. Напэўна невыпадкова паявіўся ён у гэтым кутку свету. Мабыць, так як большасць людзей, імкнуўся ў сваім жыцці знайсціся ў акружэнні сабе падобных, ва ўласным, адзіным і непаўторным месцы на зямлі. Менавіта маленькі кусок усходняй Беласточчыны стаў цэнтрам яго духоўна-фізічнага існавання. Доктар Грабоўскі не запыняе сваіх дзеянняў у ніякім выпадку на чыста медычных справах. Ён з'яўляецца знаўцам і любіцелем сапраўднай культуры і мастацтва, неабыякава ставіцца да падтрымкі мясцовых творцаў, якіх называе скарбамі гэтай зямлі. З імі таксама хоча сустракацца і ладзіць аўтарскія вечарыны. Здаецца, што хуткае развіццё яго дзейнасці амаль гарантаванае. Тут не можа быць інакш, таму што намеры ў яго асабліва чыстыя, адназначныя і вельмі патрэбныя. На канец ён папрасіў крынскіх гасцей не губляць кантакту, а на знак памяці падараваў зборнік сваіх вершаў.



У сапраўды глыбока духоўным настроі заранічная сямейка развіталася з нававольскай супольнасцю. Далейшая дарога на свята Праабражэння таксама праходзіла ў атмасферы сур'ёзнасці і засяроджанасці. Самыя цяжкія выпрабаванні чакалі іх пры ўездзе на Святую Гару. Прыйшлося стаяць у надзвычай доўгіх аўтамабільных чэргах і аб'язджаць месца невядомымі дарожкамі, указанымі кіруючымі рухам. У гэтай гамане незарыентаваным няцяжка было стаць ахвярай мясцовых хітруноў, якія напорыста прымушалі набываць у іх уваходныя білеты на свята. Такім чынам пакуль крынская экіпа даехала на месца, прыйшлося ёй двойчы плаціць за паркоўку. Іх паінфармавалі таксама аб дадатковай аплаце за дазвол расставіць палатку, ад якой, па літасці, адступілі. Ну што ж, дзе вялікая святасць, там і чорт не спіць. Святочная вячэрня амаль ужо пачыналася, таму займацца палаткай не было калі. З некалькімі драўлянымі, уручную зробленымі крыжамі і каляскай трэба было цярпліва прабівацца праз агромныя масы народу. Нехта з журналістаў СМІ запыніў іх па дарозе з запытаннем, што думаюць пра ідэю паяднання рускага і польскага народаў. „Будзь чалавекам і дай жыць другім", — пачуўся адказ адной з крынскіх паломніц. Другая дабавіла: „Паяднанне жыве ў сэрцах пасобных людзей. Я сама — каталічка, а прыбыла сюды з малітвай і верай у магутнасць Божай прысутнасці ў гэтым месцы". Некалькі крокаў далей запыніў іх чарговы чалавек з мікрафонам, у гэты раз з запытаннем пра спасаўскую традыцыю асвячэння яблык. На жаль, я сама пачынаю есці яблыкі як толькі яны даспяваюць, гэта недзе ў канцы ліпеня. Канешне, мая пакойная баба ніколі сабе на такое не дазволіла б. Кожны год яна прывозіла сюды кошычак вясковай садавіны, якую пасля асвячэння завозіла дахаты, каб надзяліць сям'ю, суседзяў і з разгаўлення пачаць свой асабісты фруктавы сезон. Узгаданне пра багабоязную душу жанчыны ўзбудзіла ў сэрцы ўспамінаючай патрэбу вяртання да добрых прыкладаў продкаў. Дух бабулі безумоўна лунаў над перамяшчаючымся туды і назад агромнейшым натоўпам народу. Гэта ж яна прыязджала сюды рэгулярна, да апошніх сіл, з драўлянымі крыжамі, каб абяспечыць здароўем і шчасцем сваю не вельмі ўдухоўленую і ўцаркоўленую радню. Згэтуль прывозіла цудоўную ваду, якой пад хатнімі іконамі, праз пасрэдніцтва стужкі з ахвярнага крыжа прамывала хваробы сямейнікаў. Бог заўсёды слухаў і выконваў яе шчырыя просьбы. Напрыканцы свайго жыцця яна хваробамі была прыкаваная да ложка, што ўспрымала з пакорлівасцю і спакоем як сапраўдны Божы дар. Вельмі тады цешылася, калі ўнукі яе прыкладам не міналі Святой Гары і прывозілі адтуль самыя лепшыя падаркі ў выглядзе просфаркі, іконкі ці святой кніжачкі.

Напэўна цешылася яна і цяпер, убачыўшы з неба сваю ўнучку і праўнучку, ставіўшых крыжыкі на святым месцы. Заткнуўшы ў зямлю пад крыжамі запаленыя свечкі, крынскія паломнікі патанулі ў акружаючым царкву моры людзей, вітаючых гучным мнагалеццем ганаровага госця патрыярха Масквы і ўсяе Русі Кірыла. З надыходам змроку натоўп паступова раставаў, калі поўначы можна было нават прысесці на прыцаркоўнай лавачцы, каб перадыхнуць асаблівай атмасферай гэтага месца. Усю ноч вакол царквы кружыўся бясконцы персцень людзей, жадаючых увайсці ўсярэдзіну і прылажыцца да святых ікон. Між імі прыцісkaліся на каленях паглыбленыя ў малітве маладыя хлопцы і дзяўчаты. Паасобныя гурткі жанчын спявалі набожныя песні, якія перапляталіся з гукамі заўпакойнага акафіста, дабягаючага з непадалёкіх могілак. Ранкам гара зноў загусцела. Усё ж такі знайшоўся кусок травы, на якім у сонечнай жары можна было папрысутнічаць у святочнай, патрыяршай літургіі. Крынскія паломніцы пакідалі святое месца адныімі з апошніх. Менавіта тады без залішняй таўканіны і спешкі можна было абмыць усе клопаты ў святой рэчцы, аставіўшы забруджаныя імі хустачкі на беражку, увайсці на хвіліну ў царкву, а нават атрымаць асабістае благаслаўленне патрыярха. Спакойная дарога дахаты мінала пры чытанні вершыкаў з дзіцячага зборніка „Голас анёла", купленага на Святой Гары ад манашак з падмінскага манастыра ў Навінках.

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# За Дубровай



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Касцёл у Дуброве-Беластоцкай

*( працяг з 34 нумара )*

Біскуп Эдвард Роп усялякім чынам імкнуўся ўлічваць рэлігійныя патрэбы беларусаў. З Сеціва: „На пытанне святароў, ці можна гаварыць казанні па-беларуску, гучаў нязменны адказ іх пастыра: „Не толькі можна, але й трэба”. Потым гэтага мудрага пастыра чакала прызначэнне на магілёўскую катэдру, дзе, безумоўна, ён мог таксама зрабіць шмат карыснага. Ды, на жаль, нядоўга і тут праслужыў, бо грымнуў кастрычніцкі пераварот, якога ён як сумленны чалавек, вядома, не змог прыняць. І таму яго чакаў арышт. Сталася гэта 29 красавіка 1919 года ў Петраградзе. Пазней біскуп быў перавезены ў Маскву, дзе ўтрымліваўся пад хатнім арыштам і нарэшце быў вызвалены ў выніку палітычнага абмену [за савецкага партыйнага дзеяча Карла Радка]. Біскуп Роп пакінуў Савецкі Саюз, краіну, якую не змог прыняць, каб ужо ніколі не вярнуцца да тых, каму так аддана, па-бацькоўску служыў. Пра шырыню ягонае хрысціянскае душы яскрава кажа тое, што ўжо неўзабаве па выездзе ён арганізаваў у Польшчы камітэт дапамогі галадаючым Расіі. Ён жа стаў ініцыятарам і заснавальнікам Місіянерскага інстытута ў Любліне (1924). Біскуп Эдвард Роп памёр 25 ліпеня 1939 года. У сакавіку 1983 года труна з ягоным целам была перавезена з познаньскай катэдры ў беластоцкую”.

І яшчэ адна цікавінка з Сеціва: „В условиях Гражданской войны в России и угрозы немецкой оккупации Петрограда [Eduard Michael Johann Maria Baron von der Ropp] принял решение о переводе Санкт-Петербургской духовной академии в Люблин. Перевод, осуществлявшийся как временный, оказался постоянным, на базе эвакуированной академии возник Католический университет Люблина”. І вытрымка з партала самога ўніверсітэта: „Katolicki Uniwersytet Lubelski Jana Pawła II jest najstarszą uczelnią Lublina i jednym z najstarszych uniwersytetów w Polsce. Powstał w 1918 r. z inicjatywy ks. Idziego Radziszewskiego, który został pierwszym rektorem. Od początków istnienia zadaniem Uczelni jest służba Bogu i Ojczyźnie — Deo et Patriae”. Пра біскупа Ропа ні слова.

Дарэчы, розныя крыніцы падаюць нават супярэчлівыя факты пра яго, для прыкладу польскі тэкст у Вікіпедыі: „Za próby rozwiązania konfliktów narodowościowych i popieranie interesów polskich zmuszony został przez władze rosyjskie w 1907 r. do opuszczenia diecezji i osiedlenia się w Niszczy, w guberni witebskiej. 25 lipca 1917 r. mianowany arcybiskupem mohylewskim, ingres do katedry w Mohylewie odbył 2 grudnia 1917 r. Był także administratorem apostolskim diecezji mińskiej w 1917 r. Ostatni pasterz na stolicy metropolitalnej w Mohylewie. Skazany przez władze radzieckie na śmierć. 29 kwietnia 1919 r. deportowany z terenu ZSRR, rezydował w Lublinie, Warszawie i Poznaniu. W Lublinie w kościele pw. św. Jozafata przy ul. Zielonej 3, który to kościół został mu przekazany przez biskupa lubelskiego Mariana Leona Fulmana na prokatedrę. W budynkach kościelnych abp Ropp otworzył seminarium duchowne, działające pod nazwą Instytutu Misyjnego”.



http://www.wikipedia.org

Біскуп Эдвард Роп

Энцыклапедычны даведнік „Рэлігія і царква на Беларусі” так піша пра біскупа Эдварда Ропа: „На пасадзе віленскага біскупа ва ўмовах нацыянальна-культурнага адраджэння літоўцаў і беларусаў імкнуўся не дапусціць міжэтнічнай канфрантацыі, быў супраць атасамлівання каталіцызму з польскасцю. Спрыяў увядзенню літоўскай і беларускай моў у царкоўнае жыццё, напр., восенню 1905 г. загадаў выкладаць у межах дыяцэзіі каталіцкі Закон Божы для дзяцей-беларусаў па-беларуску. У час яго візітацый касцёлаў Усходняй Беларусі (ліпень 1917) набажэнствы праводзіліся і на беларускай мове”.

Але не за стаўленне да нацыянальных моў пышна вітала яго Дуброўская парафія ў пачатку верасня 1905 года. Там адбывалася напружанае міжканфесійнае змаганне і віленскі біскуп быў патрэбны, каб паставіць на тагачасным этапе кропку над і. У канцы XIX стагоддзя драўляны касцёл у Дуброве, пабудаваны ў пачатку папярэдняга стагоддзя, моцна ўстарэў і наспела неабходнасць пабудовы новага. На гэта патрабаваўся дазвол царскіх улад, які пасля Студзеньскага паўстання было вельмі складана атрымаць. Мала таго, тадышнія ўлады падштурхоўвалі праваслаўных канфіскаваць каталіцкія храмы; гэтая перспектыва мела азарыць і манашкі з неадлеглага Ружанастока.

Генрык Радзевіч, аўтар дыпломнай працы на тэму гісторыі дуброўскага касцёла, напісанай у 1980 годзе ў Люблінскім каталіцкім універсітэце, так апавядае пра хадайніцтвы аб збудаванні новага касцёла: „Gdy przybył więc w 1894 r. do Dąbrowy na proboszcza ks. Józef Fordon od razu zaczął myśleć o budowie nowego kościoła. Trzeba było jednak pokonać szczególne trudności ze strony zaborczych władz rosyjskich. Odpowiednie ustawy rządowe wymagały specjalnego pozwolenia ministra nawet na odnowienie kościołów. Starania o pozwolenie na budowę nowego kościoła zostały poprzedzone akcją wśród parafian, aby ich przekonać o konieczności budowy nowego kościoła. Chciał aby przyszła budowa nie była tylko jego pragnieniem, ale stała się również pragnieniem całej parafii. Przy każdej więc sposobności wpajał parafianom przekonanie, że stary kościółek jest za ciasny i za mały, że są oni w stanie wybudować nowy, odpowiadający ich potrzebom. Wykorzystywał do tego osobiste spotkania przy kościele, podczas wyjazdów do chorych, czy na jakichkolwiek uroczystościach rodzinnych, jak wesela czy chrzciny. Taka postawa zjednała mu sympatię i sprawa budowy kościoła stała się wkrótce ambicją całej parafii. W roku 1895 nastąpiły pewne złagodzenia w przepisach rosyjskich odnośnie budowy nowych kościołów. Pozwolenia na budowę nowych świątyń w miejscach zrujnowanych kościołów udzielało Ministerstwo Spraw Wewnętrznych. Procedura starań o to pozwolenie była bardzo skomplikowana. Zwracano się do ministerstwa przez miejscowego gubernatora. Nie było to jednak tylko w kompetencji władz państwowych. Decydujący wpływ miało tu raczej duchowieństwo prawosławne na czele z archirejem i proboszczem prawosławnym, na terenie którego miał powstać kościół. Pisemne prośby nie przynosiły żadnych skutków, duchowieństwo prawosławne odwlekało zgodę w nieskończoność. Ks. proboszcz udał się więc osobiście do Grodna, aby prosić archireja o pozwolenie. Gdy usilne prośby nie przynosiły rezultatu, zdecydował się na bardzo wymowny akt pokory w stosunku do hierarchy prawosławnego. Podszedł do niego, ukląkł przed nim na kolana i rzekł: „Pozwól ojczulku na dzieło Boże”. Duchowny prawosławny zmieszany tym uczynił znak krzyża nad głową klęczącego i natychmiast podpisał zgodę na budowę kościoła w Dąbrowie”.

Але на гэтым складанасці з пабудовай дуброўскага касцёла не скончыліся; будаўнікоў чакалі чарговыя выпрабаванні. Генрык Радзевіч: „Parafianie dąbrowscy nie zawiedli swego proboszcza i chętnie składali ofiary i brali udział w budowie. Również ludzie z sąsiednich parafii wspierali budowę kościoła, szczególnie zaś dawni parafianie dąbrowscy przebywający na emigracji w Ameryce. Kościół według zamierzeń ks. Fordona był bardzo duży i kosztowny. W trzecim roku budowy z powodu braku funduszy przerwano budowę. Przerwa w budowie trwała prawie cały rok. W tym czasie księdzu Fordonowi pomoc pieniężną zaproponowała przełożona klasztoru prawosławnego w Różanymstoku. Roztropny proboszcz przeczuł tu jakiś podstęp i pomocy z tej strony nie przyjął. Nie minęły trzy lata a ujawniły się zamiary ofiarodawców. Chciano bowiem przy tej okazji nowo powstały kościół zamienić na cerkiew. Proponowane zaś pieniądze, pochodzące z carskiej kasy miały być pretekstem do zabrania nowego kościoła. Przez cały czas budowy nowego kościoła nabożeństwa odbywały się w starej świątyni. 21.IV.1902 r. odbyła się uroczystość poświęcenia nowego kościoła. Odbiła się ona szerokim echem wśród wiernych nie tylko tutejszej parafii i spowodowała, że najbliższej nocy przestał istnieć stary kościół”.

Гэтую падзею апісаў у парафіяльнай хроніцы пазнейшы дуброўскі пробашч Вітальд Кузьміцкі: „Zaledwie ks. dziekan Anzelm Noniewicz rozpoczął poświęcenie kościoła, miejscowy policjant przyniósł depeszę od naczelnika powiatu sokólskiego z rozkazem powstrzymania się z poświęceniem. Ksiądz dziekan po przeczytaniu depeszy poświęcenia dokonał. Wnet po wyświęceniu rozeszła się pogłoska, że staraniem przełożonej klasztoru różanostockiego rząd rosyjski zamierzał nowo wybudowany kościół skonfiskować, zostawiając dla parafii drewniany stary kościół. Przerażeni tą pogłoską parafianie zbiegli się tłumnie w nocy z dnia 22 na 23.IV.1902 r. i stary drewniany kościół rozebrali z fundamentami i rozwieźli po całej parafii”.

Ці сапраўды ружанастоцкія манашкі хацелі прыбраць сабе новы дуброўскі касцёл, дакладна невядома, бо пра гэта былі толькі погаласкі. Але менавіта такія чуткі даюць стымул для незвычайных дзеянняў, а гэтым дзеяннем быў знос старога касцёла за адну ноч. Магчыма, што мабілізацыя да яго была падыктавана жаданнем мацавання веры, гэтак жа сама, як мабілізацыя агромнай колькасці коннікаў на прыезд віленскага біскупа Эдварда Ропа дзеля асвячэння касцёла, якое адбылося 4 верасня 1905 года, ставячы згаданую раней кропку над і. Такая падзея, як і ранейшы знос касцёла цягам адной ночы, пакідала след у памяці яе ўдзельнікаў на ўсё жыццё. І ці хтось, прынёсшы такія незабыўныя ахвяры, мог пасля адхіляцца ад Касцёла?

# Вакол карыцінскага сыру

Тэкст і фотаУршулі ШУБЗДЫ

Дзевяць гадоў у Карыціне святкуюць Дзень сыру, ад сямі — гэты ж далікатэс знаходзіцца ў спісе традыцыйных прадуктаў Міністэрства сельскай гаспадаркі. Нядаўна сыр атрымаў афіцыйна ад Еўрапейскай камісіі сертыфікат — ахоўванае геаграфічнае азначэнне.

— Гэта вялікая прамоцыя гміны Карыцін, — падкрэслівае войт Міраслаў Лех. Дадае, што прамоцыю сыру гміна пачала яшчэ ў дзевяностых гадах: — Асаблівае ўзмацненне прамоцыі наступіла перад тым як Польшча апынулася ў складзе Еўрасаюза. Гэта многія гады працы, таму цешымся, што нам удалося.

Трускалкі і сыр — гэта прадукты, якія ў Карыціне дачакаліся сваіх фэстаў. Лічыцца, што якраз тут сяляне вырошчваюць найбольш трускалак у рэгіёне. А сыр? Паводле слоў карыцінскага войта Міраслава Леха, гэты далікатэс быў вядомы жыхарам гміны ўжо ў семнаццатым стагоддзі:

— Легенда кажа, што ўсё пачалося ў час вайны са шведамі. Сам Генрык Сянкевіч згадвае ў „Патопе" барацьбу над ракой Кумялкай. Сярод наймітаў былі швейцарцы. Яны лечыліся ў маёнтку Кумяла, дзе выявілі таямніцу вырабу сыру. Ад тых часоў рэцэпт вырабу амаль не памяняўся.

У гэтай легендзе можна знайсці зерне праўды. Усе, якія займаюцца вырабам сыру, ведаюць яго з дзяцінства.

— Адкуль помню, сыр быў у маёй хаце, — кажа Тэрэса Нятупская з Горшчыны. — Ён для мяне заўсёды ўдаецца. Шчыра кажучы, рэцэпт нескладаны. Нагрэў малака, усыпаў сычужыны, яно тады ўкісне, зробіцца тварог. Трэба яго ўкінуць у друшляк, пазней пераварочваць і... сыр гатовы!

Паводле рэцэпта карыцінскіх жанчын, найлепш рабіць сыр са свежага малака. У яго прадукцыі выкарыстоўваюць сычужны фермент, дзякуючы чаму малако ўкісае. Раней карысталіся сцёртымі на парашок цялячымі страўнікамі, што давала той жа эфект. У залежнасці як доўга сыр даспявае, існуюць тры яго віды: свежы, спелы і даспелы. Цана за кілаграм гэта дваццаць пяць злотых. Аднак вытворцы сыру спадзяюцца, што цана можа павысіцца. Прычынай таго могуць быць кошты сертыфікатаў, якія павінны атрымаць вытворцы сыру.



Тэрэса Нятупская з Горшчыны



— Шчыра кажучы, дадумваюся як можа выглядаць дарога да атрымання сертыфікатаў, — кажа старшыня Аб'яднання вытворцаў карыцінскага сыру Марцін Белец. — Але гэта толькі маё меркаванне. За месяц усё ўжо будзем ведаць.

Падляшскі віцэ-ваявода Мечыслаў Башко ў гэтым годзе таксама святкаваў Дзень сыру ў Карыціне. Падкрэслівае, што няма ў гэтым нічога асаблівага, таму што ён сам з'яўляецца вялікім фанатам гэтага далікатэсу.

— Часта яго спажываю. Гэта сапраўды вельмі смачны сыр. Тым больш трэба яго ахоўваць, таму што паяўляюцца падробкі. Хаця яны таксама называюцца, зусім інакш смакуюць. Нярэдка псуюць рэпутацыю сапраўднаму карыцінскаму сыру. Цяпер такая асоба, якая не знаходзіцца ў спісе вытворцаў, а якая будзе прадаваць сыр, заплаціць штраф — нават 50 тысяч злотых.

Тэрэса Нятупская спецыялізуецца ў класічнай вытворчасці сыру. Гэта абазначае, што яе вырабы без такіх дадаткаў як, напрыклад, сушаныя памідоры ці маяран. Паводле яе, „чысты" сыр найахвотней купляюць. Тэрэса Нятупская займаецца вырабам сыру, як сама кажа, даўнымдаўно. Хвалюецца ці будзе мець магчымасць далей добра зарабляць на яго продажы.

— Я ўчора даведалася, што сыр занесены ў еўрасаюзны спіс. Не вельмі мяне гэта цешыць. Цяпер пачнецца... трэба будзе купіць фіскальную касу. І ўжо на „чорна" нельга будзе прадаваць. На рынках таксама забароняць.

Турбуецца не толькі адна Тэрэса Нятупская. Сярод трыццаці членаў Аб'яднання вытворцаў карыцінскага сыру толькі дзевяць маюць магчымасць вырабляць сыр у новых умовах, якія абавязваюць у Еўрасаюзе.

— Асобы, якія не маюць нумара, нададзенага Ветэрынарнай інспекцыяй, ніколі не маглі прадаваць сыру. Толькі на гэта прымыкалі вока, штраф быў 200 злотых. Цяпер такая асоба заплаціць больш чым 50 тысяч, — кажа Марцін Белец.

На гэтым не канчаюцца праблемы вытворцаў сыру. Ад студзеня мінулага года ўвайшло распараджэнне Міністэрства сельскай гаспадаркі. У адпаведнасці з ім лакальныя прадпрымальнікі могуць прадаваць свае прадукты толькі на тэрыторыі свайго ваяводства. Пратэсты звярнулі ўвагу прэм'ер-міністра Дональда Туска, які ў мінулым годзе наведаў Карыцін і сустрэўся з вытворцамі сыру.

У Падляшскім ваяводстве толькі два прадукты знаходзяцца на еўрасаюзным спісе. Акрамя карыцінскага свойскага сыру ахоўваецца яшчэ татарскі перакачэўнік.




Сталіца Літвы ўжо даўно стала адным з цэнтраў беларускай палітычнай эміграцыі. І гэта не толькі з-за блізкасці да беларускіх межаў. Вільня яшчэ з савецкіх часоў была месцам, дзе праходзілі разнастайныя з'езды і семінары беларускай апазіцыі. Так, напрыклад, у часы перабудовы менавіта там, а не ў Мінску, адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту.

Цяпер Вільня з'яўляецца цэнтрам і праваабарончага беларускага руху. Там, прынамсі, знаходзіцца Беларускі дом правоў чалавека.

Падзеі 19 снежня 2010 года сталі прычынай ад'езду з Беларусі шмат каго з актывістаў апазіцыйнага і праваабарончага руху. Над такімі людзьмі навісла рэальная магчымасць без дай прычыны сесці за краты. Яна і дагэтуль існуе, але прыняла нейкі нябачны на першы погляд характар. Органы бяспекі пад выглядам контрразведвальнай дзейнасці вядуць паляванне на ведзьмаў і займаюцца палітычным пераследам, з-за чаго многія актывісты выклікаюцца ў Камітэт дзяржбяспекі на апытванне. Пры такой сітуацыі ў палітычную эміграцыю будуць з'язджаць усё новыя і новыя людзі.

Адной са створаных у апошні час эміграцыйных арганізацый у Вільні з'яўляецца Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва Беларусі ў Літве, сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belarusianoffice.org**. Трохмоўны сайт (маюцца беларуская, руская і англійская моўныя версіі) уяўляе сабой як прэзентацыю арганізацыі, так і своеасаблівую справаздачу аб яе дзейнасці.

На сайце даволі шмат рубрык, выйсці на якія знаходзяцца як уверсе выяўлення, так і з левага боку. Найбольш цікавая для першага азнаямлення падаецца рубрыка „Пра нас". Адметна, што яна зроблена чамусьці толькі на рускай мове. Няўжо для беларускай палітычнай эміграцыі ў Літве беларуская мова не з'яўляецца чымсьці абсалютным пры прэзентацыі сябе і сваёй дзейнасці?

„У сувязі з крымінальным пераследам частка дэмакратычных актывістаў пакінула краіну (больш за 200 чалавек). Тэндэнцыя ад'езду нарастае, і актыўная частка ўдзельнікаў даных выбараў (прэзідэнцкіх 2010 года — заўв. У. Л.) знаходзіцца ў выгнанні. Сёння паўстае пытанне аб рэальнай кансалідацыі беларусаў за межамі краіны і іх працы ў спакойным рэчышчы", — пішуць пра сваю арганізацыю яе сябры.

Беларускія палітычныя эмігранты ў Літве настроены на доўгае знаходжанне за межамі радзімы, таму асноўнай доўгатэрміновай сваёй мэтай яны лічаць стварэнне адзінай платформы для каардынацыі і кансалідацыі дзейнасці дэмакратычных сіл Беларусі, накіраванай на дэмакратычныя пераўтварэнні ў краіне.

Адной з задач, што ставіць перад сабой Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва — выпрацоўка сумеснага плана дзеяння з падобнымі арганізацыямі з іншых краін Еўропы — Польшчы, Украіны, Бельгіі і іншых.

Зважаючы на мэты і задачы, якія абвясцілі аб'яднаныя беларускія эмігранты ў Літве, прыходзіш да высновы, што на хуткія пераўтварэнні ў Беларусі яны не разлічваюць, і таму лічаць за больш слушнае наладжванне ўласнай размеранай працы.

Стваральнікі сайта падаюць пра сябе звесткі, якія змешчаны на старонцы „Кантакты". Дзве з трох пазначаных там асоб — Алег Мяцеліца і Ігар Каваленка былі падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў сябрамі каманды паэта-палітыка Уладзіміра Някляева на Магілёўшчыне.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ
## Скарбы

### Слаўны Слонім

Слонім — адзін з найбольш вялікіх і старажытных гарадоў сучаснай Гарадзеншчыны, які па праве можа прэтэндаваць на статус гістарычнага цэнтра. З гэтым горадам звязана вялікая колькасць выдатных постацей агульнанацыянальнай значнасці: тут жылі і працавалі канцлер ВКЛ Леў Сапега і магнат Міхал Казімір Агінскі, музеязнавец Восіп Стаброўскі і ідэолаг беларускага хрысціянскага руху Адам Станкевіч, паэтка Наталля Арсеннева і лідар антыбальшавіцкага супраціву Уладзімір Ксяневіч, грамадска-рэлігійны дзеяч Лукаш Дзекуць-Малей і беларускі асветнік Гальяш Леўчык. Праўда, помнікаў гэтым выдатным людзям сёння ў Слоніме вы не знойдзеце. Найбольш блізкім да ўшанавання „ў камяні і граніце" быў фундатар слонімскіх палацаў і храмаў Леў Сапега. Пра ўсталяванне яму манумента па Слоніме ходзіць сапраўдны анекдот. У наш час з'явіўся праект помніка канцлеру з сабакам. Грамадскасць стала актыўна збіраць грошы і дамагацца такога помніка, аднак, сродкаў хапіла толькі на Сапегу, а на сабаку забракла. Так помнік і не паўстаў. Затое ў Слоніме ёсць вуліца з рэдкай для нашай рэчаіснасці назвай Оперная — у гонар даўняга тэатра, які тут дзеіў. Ёсць тэатр у Слоніме і цяпер, што вялікая рэдкасць для раённых цэнтраў.

Цяперашнія слонімскія адміністратары не надта багатыя на фантазію — таму ў горадзе ажно некалькі ўстаноў носяць імя „Шчара" — рэстаран, гатэль... Але гэта зразумець можна — мясцовыя жыхары надзвычай любяць рэчку, на якой ўласна і паўстаў горад. Гэтая водная артэрыя проста культавая ў Слоніме. Яна стала часткай знакамітага некалі канала, выкапанага паводле задумы Міхала Казіміра Агінскага, які вярнуўся сюды пасля эміграцыі і кардынальна рэфармаваў гаспадарку, развіў культуру горада. Пры яго кіраванні Слонім вобразна называлі „Афінамі Палесся". Канешне, гэта было ў значнай ступені перабольшаннем, але тым, хто па-сапраўднаму любіць гэты горад, так не здаецца. Мясцовыя краязнаўцы, у шэрагу якіх першы Сяргей Чыгрын, могуць пра слаўнае мінулае горада, пра мясцовых выхадцаў расказваць гадзінамі. І давесці што заўгодна — прыкладам, што Слонім — гэта радзіма сланоў. А калі сур'ёзна, то вакол назвы горада было зламана нямала дзідаў. Ажно да XIV ст. яна ў пісьмовых крыніцах фігуравала як Услонім, Вслонім, Васлонім. Выводзілі назву ад польскіх слоў „**słoma**" (салома) ці „**słonina**" (сала), спасылаючыся на саламяныя стрэхі старых будынкаў ці шырокі гандаль салам. Гэтыя гіпотэзы падаюцца „прыцягнутымі за вушы". Больш праўдападобныя наступныя версіі. Васіль Мялешка сцвярджае, што гэта балцкая назва і паходзіць ад „slenis", „slenumas" — нізіна, нізіны. А краязнавец Васіль Супрун яшчэ ў 1960 годзе выказаў думку, што назва „Услонім" паходзіць ад слова „услон", „услона" — заслона, пэўнае ўмацаванне, якое засланяе. У старажытнасці рака Шчара была важнай воднай магістраллю, якая злучала Палессе з Панямоннем. Праз валоданне і пэўны кантроль над гэтым шляхам можна было не толькі мець сувязь з вялікай тэрыторыяй, але і ўплываць на яе жыхароў. Верагодна, што з мэтай калектыўнай абароны тут, абапал рэчышча Шчары былі збудаваны два ўмацаваныя гарадзішчы, сляды якіх былі зафіксаваны побач з сучасным пляцам Сапегі і на месцы былога палацавага комплексу Агінскага. Магчыма, гэта і быў той „услон", пад ахову якога цягнуліся ўсё новыя жыхары наваколля.

І гэта толькі пра назву. Архітэктурная ж і культурная спадчына горада заслугоўвае асобных падрабязных выданняў, якія некалі з'явяцца і раскажуць нам у дэталях пра слаўны Слонім.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

■ Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Дажынкі ў Кляшчэлях

Гмінныя дажынкі ў Кляшчэлях албыліся 2 верасня 2012 г. Імпрэза была арганізавана на пляцоўцы побач спартыўнага стадыёна „Орлік". Арганізатарам з'яўляўся мясцовы самаўрад і Гмінны асяродак культуры, спорту і адпачынку. Фінансавую падтрымку аказалі Гайнаўскі малочны кааператыў, Надлясніцтва Бельск-Падляшскі і Кааператыўны банк у Гайнаўцы. Да традыцыі адзначання свята ўраджаю Кляшчэлеўская гміна вяртаецца першай на Гайнаўшчыне. У мерапрыемстве ўдзельнічалі бурмістр Ірэна Негярэвіч, пробашч рымска-каталіцкай парафіі кс. Ян Красоўскі, настаяцель праваслаўнага прыхода, благачынны а. Мікалай Келбашэўскі, святары а. Павел Нікіцюк з Кляшчэляў, а. Ян Кулік з Мілейчычаў, а. Павел Кучынскі з Вэрстока, старшыня Праўлення кааператыўнага банка ў Гайнаўцы Сяргей Койла, кіраўнік КРУС Міраслаў Раманюк, кіраўнік Асяродка сельскагаспадарчай кансультацыі Геранім Панятоўскі, намеснік каменданта Памежнай аховы ў Дубічах-Царкоўных Павел Баравік, радная горада Бельск-Падляшскі і заадно кіраўнік гурту „Бельскія куранты" Аліна Негярэвіч, кіраўнік гурту „Васілёчкі" Ніна Бялецкая, павятовы радны Яраслаў Герасімюк ды радныя і солтысы Кляшчэлеўскай гміны. Ролю вядучага выконваў дырэктар ГАК Лявон Алексяюк.

Даўнейшы жніўны абрад і стаўленне перапяліцы ў выкананні „Васілёчкаў"

Мерапрыемства пачалося з паўгадзінным спазненнем пасля дванаццатай апоўдні. Вядучы, як належыць гаспадару мерапрыемства, прывітаў гасцей, затым пазнаёміў са старастам і старасціхай дажынак. А былі імі Яраслаў і Марыя Балейка з Кляшчэляў. Наступіла цырымонія перадачы традыцыйнага бохана хлеба.

— Прыміце ад нас, гаспадар, — сказаў стараста бурмістру Ірэне Негярэвіч, — гэты бохан хлеба са збожжа сёлетняга ўраджаю. Ушануйце яго і гаспадарце так, каб кожнаму на вёсцы, як і ў горадзе яго хапіла. Дзяліце разумна і справядліва.

— Прымаю гэты прыгожы бохан і спадзяюся, што ў гэтым 2012 годзе кожнаму яго хопіць. Дзякую вам за працу...

Прытым бурмістр яшчэ сказала:

— Сёння адзначаем Свята ўраджаю нашай зямлі — дажынкі. Гэта адзін з цудоўнейшых дзён у календары кожнага земляроба. Гэта радасць і адпачынак пасля цяжкай працы. У пышных і па-майстэрску выкананых дажынкавых вянках скрываецца радасць з пасляхова закончанага жніва. Гэта ўдзячнасць за ўраджай, а перш за ўсё за цяжкую працу і штодзённыя турботы сялян на вёсцы, таксама за іхнюю глыбокую прывязанасць да народнай традыцыі.

У ходзе далейшага выступлення бурмістр станоўча аднеслася да працы сельскагаспадарчага сектара ў гміне, затым пакарысталася статыстычнымі данымі.

— Кляшчэлеўская гміна карыстаецца 5995 гектарамі сельскагаспадарчых угоддзяў. У тым ліку пасеяных і засаджаных было 3089 га, 1200 га складаюць сенажаці, а 800 га — пашы. У гэтым годзе 2050 га было засеяных збожжам і 500 га грэчкай. Не зважаючы на пераважную большасць глебы нізкай якасці (V і VI класаў), ураджай у нашай гміне атрымаўся станоўчы, бо ў сярэднім 22 цэнтнеры з гектара: аўса — 25 цэнтнераў, трыцікале і пшаніцы — 30 цэнтнераў і збожжавых мяшанак — 25 цэнтнераў. У асноўным гаспадаркі нашых земляробаў маюць ад 5 да 15 гектараў. Але маем і большыя. Спецыялізацыя лакальнай сельскагаспадарчай вытворчасці гэта жывёлаводства — гадоўля кароў і свіней. Значных поспехаў дабіліся авечка- і птушкаводы. Сёння найлепшыя майстры, сельскагаспадарчыя вытворцы атрымаюць узнагароды. На тэрыторыі гміны працуе 19 экалагічных гаспадарак разнавіднай спецыяльнасці. Іхнія харчпрадукты карыстаюцца сертыфікатамі экалагічнай вытворчасці. Штогод прыбывае нам такіх гаспадарак. На тэрыторыі гміны знаходзяцца каштоўныя прыродныя арэалы „Апора" і „Даліна верхняга Нурца", якія ахоўваюцца ў рамках праекта „Натура-2000". Там змяшчаецца значны комплекс зялёных угоддзяў. На жаль, нашы земляробы мала карыстаюцца спецыялістычнымі парадамі Асяродка сельскагаспадарчай кансультацыі, што ў рэзультаце паменшвае іх прыбыткі на 1370 злотых з гектара.

У заканчэнні бурмістр сказала:

— Паважаныя земляробы! Жадаю Вам, каб заўжды быў добры час для сельскай гаспадаркі, каб карысталіся новымі магчымасцямі і шанцамі. Жадаю Вам моцнага здароўя і самых лепшых поспехаў. Ад імя гміннага самаўрада дзякую за гадавую працу і жадаю багатага ўраджаю. Таго ж жадаю Вашым сем'ям і суродзічам. Прывяду тут словы папы Яна Паўла II: „Аддаю пашану спрацаваным рукам польскага селяніна. Тым рукам, якія з цяжкай зямлі здабывалі хлеб для краіны, а ў час пагрозы былі гатовымі сцерагчы і абараняць гэтую зямлю".

Пасля выступу бурмістр Ірэны Негярэвіч святары адслужылі малебен.

У мастацкай частцы гурт „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага паказаў даўнейшы жніўны абрад на полі пана Жаўтухіна і стаўлянне перапяліцы, а жанчыны з Дабрывады выканалі некалькі абрадавых песень, якія спяваліся ў час гэтага ж абраду.

Пасля наступіла цырымонія ўзнагароджання перадавых земляробаў. Пераходны кубак павятовага старосты атрымалі сужонства Якубоўскія за вытворчасць малака, Крупінскія — за свінагадоўлю і вытворчасць збожжавых кармоў, Зянон Сакоўскі — за гадоўлю коней, сужонства Сарачынскіх — за гадоўлю птушак і вытворчасць яек, ды Януш Пясэцкі за экалагічную гадоўлю авечак. Пераходныя кубкі бурмістра Кляшчэляў былі ўручаны выдатным земляробам Кляшчэлеўскай гміны. У ходзе далейшага мастацкага блока выступілі калектывы „Вішанька-чарэшанька" з Сухавольцаў, „Каліна" з Дашоў, „Фантазія" з Кляшчэляў і „Бельскія куранты". Шмат эмоцыі выклікалі спаборніцтвы ў перацягванні каната паміж жыхарамі Дашоў і Дабрывады, Дабрывады і Сакоў ды Сакоў і Дашоў. Словы пашаны і падзякі за шматгадовую працу ў сельскагаспадарчай службе бурмістр Негярэвіч перадала Арыядне Младзяноўскай (35 гадоў) і Яраславу Герасімюку (40 гадоў). Святкаванні закончыліся футбольным матчам паміж мясцовай камандай клуба „Ожэл" і камандай Мясткова. Запрошаныя госці і ўдзельнікі выступаючых калектываў спаткаліся на дажынкавым пачастунку. Прысутных весялілі музыканты „Васілёчкаў".

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — яўрэйскую пагаворку.

1. сыравіна для вырабу брыльянтаў = 17 _ 3 _ 43 _ 36 _ 5 _;
2. занятак дзеяча = 8 _ 9 _ 10 _ 11 _ 12 _ 25 _ 26 _ 27 _ 28 _;
3. адзінка сілы = 34 _ 31 _ 47 _ 40 _;
4. паміж скронямі = 6 _ 7 _ 18 _;
5. прозвішча аўтара „Людзей на балоце" = 14 _ 13 _ 44 _ 45 _ 16 _;
6. грузінскі порт = 29 _ 15 _ 39 _ 4 _;
7. рыба на бязрыб'і = 30 _ 2 _ 1 _;
8. „невясёлы" ўкраінскі абласны горад = 41 _ 42 _ 49 _ 48 _;
9. Калінін (1931-1990) = 38 _ 35 _ 37 _ 24 _;
10. вучань = 22 _ 23 _ 19 _ 20 _ 21 _ 46 _ 33 _ 32 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | 12 | 13 | | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 |
| | | | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Тры, Сірыя, даносчык, дуст, званок, рыс, каптур, цень, Вялікдзень, тога, пляцень, тэніс.

Рашэнне: **Адкрытыя дзверы спакусяць і святога**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 09.09 — 15.09

**(22.03. — 20.04.)** Прымірэнне. Будзеш мець шанцы, каб схіліць да тваіх задум усіх партнёраў і саюзнікаў. З 14 (да 18.09.) будзеш больш самастойным і спрабуеш чагосьці новага. Можа выдумаеш, як заінвеставаць ашчаднасці. Твае трапныя заўвагі захопяць атачэнне; лаві момант, бо наўрад ці такі хутка паявіцца.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час для наведання грамадскіх мерапрыемстваў, забаўляльных устаноў і месцаў, дзе будуць тлумы. 11-15.09. адчуеш сябе шчаслівым і каханым, а шанс паявяцца цікавыя прафесійныя нагоды. У чацвер, калі думаеш аб змене работы, не прымай канчатковых рашэнняў. Праз тыдзень можа наступіць у цябе крызіс, дык падумай як раскласці сілы.

**(22.05. — 22.06.)** Не рвіся цяпер да сур'ёзных размоў, можаш правароніць важныя дэталі. Да 11.09. будзеш сварлівы і нахабны. Радня гэта неяк перанясе, можа быць праблема з супрацоўнікамі. У сераду твае энергія, кемлівасць і спраўнасць перамогуць любыя перашкоды. Блізнят народжаных паміж 3 і 9 чэрвеня чакаюць ашаламляльныя поспехі.

**(23.06. — 23.07.)** Адбываючыеся з табою здарэнні паддай дакладнаму аналізу. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў, абдумай усе магчымыя варыянты яе завяршэння і прымі адзінае рашэнне і ў корані зменіш становішча. Калі хтосьці пастукае ці пазвоніць у тваю кватэру, а за дзвярыма нікога не будзе, чакае цябе вядомасць, папулярнасць, славутасць і ўдачы. Мільёна не выйграеш, але зможаш купіць сабе штосьці дарагое.

**(24.07. — 23.08.)** Чакае цябе вялікая папулярнасць у супрацьлеглага полу. Не ангажуйся ў інтрыгі на працы. Ад імглістых планаў хутка пяройдзеш да канкрэтаў. Варта зайсці да лекара, парабіць абследаванні. У панядзелак можаш пачуць вельмі шмат карыснага для цябе. У канцы тыдня магчымыя праблемы са страўнікам і кішкамі.

**(24.08. — 23.09.)** Да 11.09. твае прафесійныя планы могуць не спадабацца партнёру. Ты цяпер здаровы, дык не праваронь чарговых лекарскіх абследаванняў. Свабодная Дзева можа пазнаёміцца з кімсьці, хто назаўжды застанецца ў яе сэрцы. У аўторак не займайся банкавымі справамі. Не турбуйся непрыемнасцямі ў пятніцу — растануць як снег.

**(24.09. — 23.10.)** 11-15.09. можаш залязецца камусьці ў вока. Змены ўваходзяць у тваё жыццё. Вернуцца пачуцці, якія ты даўно ўжо пахаваў. Пераканаешся, што цяжкая праца прыносіць багаты плён. Чым больш будзеш актыўны і ініцыятыўны ў гэтыя дні, тым больш чакае цябе добрага ў будучыні.

**(24.10. — 22.11.)** Чым больш будзеш актыўны, тым у лепшай форме будзеш. Адважна станеш да саперніцтва. Ды не будзеш змагацца за каханне, хаця калі хто табе запрапануе сустрэчу, не адмовішся. Нечаканыя падзеі зробяць тваё жыццё захапляльным. Можаш здабыць штосьці новае, не дазволь таму, што табе наканавана лёсам, праслізнуцца побач.

**(23.11. — 22.12.)** Да 11.09. будзеш схільны да распусты; гуляй, але памяркоўна. Усе родныя, сваякі і знаёмыя будуць цяпер засыпаць цябе званкамі, гасцінай. Калі фальшывая гордасць з'яўляецца перашкодай для прымірэння з любым табе чалавекам, першы працягні руку. Шмат часу аддасі сваякам, блізкім і чужым людзям. Гарачая атмасфера на працы.

**(23.12. — 20.01.)** Не будзеш наракаць на настрой. Да 11.09. будзеш прымушаны справіцца з дробнымі, але злучэнымі перашкодамі. З 14 (да 18.09.) паявіцца нагода, якую грэх было б не выкарыстаць. Не адштурхоўвай сваю ўдачу — цяпер можаш парабіць знакамітыя адкрыцці.

**(21.01. — 19.02.)** 11-15.09. чакаюць цябе вялікія кампанейскія поспехі. Зрэалізуеш свае найбольш экстравагантныя мары. Можаш знайсці добрую крыніцу дабрабыту. Ды могуць паявіцца праблемы ў кантактаванні. У хаце можа перавярнуцца ўсё з ног на галаву.

**(20.02. — 21.03.)** Шукай саюзнікаў і людзей ветлівых. Не хавай сваіх эмоцый і прагаў. Сур'ёзна займіся сваім здароўем, ашчаджай свае сілы. Нішто не папраўляе настрою так, як забава з сябрамі. Малым дзецям дай больш свадобы, а большым — даверу. Тыдзень добры для прадпрымальнікаў і гандлю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

На адкрытай 10 жніўня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы выстаўцы мастацкіх прац кляшчэлеўскага разьбяра Славаміра Смыка можна ўбачыць новыя абстрактныя мастацкія работы, а таксама разьбу па камені і традыцыйную разьбу па дрэве, якой мастак прысвяціў ужо шмат часу. Новыя работы з тоўстых пянькоў, бляхі, старых цвікоў і зуба ад даўняй бараны шакіравалі любіцеляў традыцыйнай разьбы Славаміра Смыка, якія звыкліся глядзець на прыгожыя драўляныя выявы жанчын, што выходзілі з-пад рук разьбяра родам з Дабрывады.

*— Сваю разьбу называю адкрываннем дрэва. У мастацтве не цікавіць мяне літаральны рэалізм. Аддаю перавагу метафары, імпрэсіі, абстракцыі-форме, якая з’яўляецца знакам душы дрэва. Незвычайна мяне захапляе гэткая размова з дрэвам.*



Славамір Смык побач сваіх абстрактных прац

# Новыя работы Славаміра Смыка

— Са сваім новым мастацтвам Славамір Смык трапіў у дзесятку. Відаць, што знайшоў ён вельмі цікавы накірунак творчасці, якім яшчэ ў нашым рэгіёне раней ніхто не займаўся. Можа новыя работы не будуць так прадавацца, як яго ранейшая разьба па дрэве, але ў новай формуле будзе ён мог намнога шырэй выяўляць свае ўнутраныя эмоцыі, — заявіў Славамір Галёнка са Скупава, уласнік мастацкай галерэі ў Белавежы.

Іншыя мае суразмоўцы таксама хвалілі кляшчэлеўскага мастака за новы накірунак, якім пачаў займацца практычна толькі ў гэтым годзе. Удалыя першыя рэзультаты гэтай работы можна ўбачыць цяпер толькі ў гайнаўскім белмузеі.

— Я стараюся вышукваць у маіх работах нешта новае. Доўга ляжаў кавалак дрэва пад плотам і раней нічога асаблівага я ў ім не бачыў. Зацікавіўся я гэтай драўнінай недзе ў снежні мінулага года. Гэта было вокамгненнае рашэнне і ўнутраная патрэба выканаць нешта новае. Да новай працы выкарыстаў я кавалак бляхі, старыя цвікі і зуб ад старой бараны. Гэтыя прадметы падыходзілі да старога дрэва. Калі нехта схоча паставіць такую работу ў сваім доме, то яна падыходзіць да пакояў абсталяваных на сучасны лад. Выконваючы яе я не карыстаўся ўзорамі ад іншых мастакоў. Гэта была мая індывідуальная задума. Я чалавек вольны, без прафесійнай мастацкай адукацыі і таму па-свойму, без прыкладаў звонку выяўляю свае ўнутраныя эмоцыі, — сказаў у канцы мерапрыемства Славамір Смык.

На музейнай экспазіцыі паказваецца таксама цікавая разьба па камені, якой разьбяр займаецца ўжо ад нейкага часу.

— Мае ранейшыя работы па дрэве былі без выразных твараў. Калі я пачаў разьбярыць камень, як некаторыя кажуць матэрыял сапраўдных скульптараў, пачаў паказваць сюррэалістычныя твары. Так як і мая разьба па дрэве, не адлюстроўваюць яны нашай рэальнасці, але захоўваюць пэўную ступень абстрактнасці. Я люблю, калі наведвальнікі маіх выставак глядзяць на мае працы і ўспрымаюць іх кожны па-свойму. Яны тады таксама бяруць удзел у творчым працэсе і па-свойму ўспрымаюць маю творчую задуму, — гаварыў кляшчэлеўскі мастак Славамір Смык. — Я люблю разьбярыць сапраўдны палявы камень, які дае асаблівую радасць ад працы з ім. Зараз камяні можна шукаць не толькі на палях, але таксама пасля зносу старых хат, якія будаваліся на палявым камені.



Аднак надалей найбольш распазнавальныя працы Славаміра Смыка выкананыя ў дрэве. Гэта постаці жанчын розных кшталтаў і памераў. Самыя новыя работы па дрэве займаюць таксама многа месца на музейнай выстаўцы ў Гайнаўцы. Наведвальнікі прасілі аўтара прац аўтограф на каталогу выстаўкі, які будзе ўваходзіць у састаў вялікага каталога — «Слоўніка беларускіх мастакоў». Так як каталогі іншых беларускіх мастакоў, якім ладзіліся ў гайнаўскім белмузеі персанальныя выстаўкі, каталог Славаміра Смыка будзе разасланы ў бібліятэкі Падляшскага ваяводства, а нават і па-за наш рэгіён, і такім чынам будзе весціся прамоцыя не толькі разьбяра, але і ўсёй Гайнаўшчыны, дзе жывуць і ствараюць цікавыя працы беларускія жывапісцы, разьбяры, фатографы.

— Сваю разьбу называю адкрываннем дрэва. У мастацтве не цікавіць мяне літаральны рэалізм. Аддаю перавагу метафары, імпрэсіі, абстракцыі-форме, якая з’яўляецца знакам душы дрэва. Незвычайна мяне захапляе гэткая размова з дрэвам. Душа дрэва шэпча мне: у гэтым месцы прыкладзі пілу, у гэтым — дакраніся долатам, а тут — падшліфуй. Часам апрацоўваю аграмадную калоду і, здаецца, што разьба таксама будзе аграмадная, але душа прымасцілася ў маленечкім кавалачку, і разьба атрымалася маленькая. Зразумеў я крэда Мікеланджэла Буанароці, што разьба — гэта здыманне залішніх, непатрэбных слаёў матэрыялу і адкрыванне ў ім выключна таго, што найпрыгажэйшае, — напісаў Славамір Смык у каталозе выстаўкі. Змешчаны ў ім прыгожыя фатаграфіі прац мастака. З каталога можна таксама даведацца аб узнагародах і галоўных выстаўках Славаміра Смыка. У 1998 годзе атрымаў ён вылучэнне на Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, арганізаваным Гайнаўскім домам культуры за разьбу «Кабета», у 2000 годзе заняў першае месца на Агульнапольскім аглядзе аматарскай творчасці леснікоў у Галухове каля Каліша за разьбу «Старушка», а ў 2001 годзе Польскі алімпійскі камітэт узнагародзіў яго «Бронзавым алімпійскім лаўрам» за разьбу «Танцуючая з абручом». Персанальныя выставы Славаміра Смыка ладзіліся ў Кляшчэлях, Гайнаўцы, Беластоку, Белавежы, Галухове, Познані і Гдыні. З 2002 года штогод удзельнічае ў калектыўных выстаўках у Галандыі, а яго вялікая чатырохметровая разьба «Белавежа» стаіць каля Штутгарта ў Нямеччыне.

— Найлепшыя мае працы па дрэве паўстаюць тады, калі я пачынаю разьбярыць без канкрэтнай задумы, а падказкай у маёй рабоце з’яўляецца толькі выгляд драўніны. Я тады адкрываю прыгожасць дрэва і, спазіраючы на сучкі і слоі, стараюся пакінуць самую вялікую яго прыгожасць. Карыстаюся цвёрдым матэрыялам — дубам, грушай, яблыняй ці грэцкім арэхам, — расказваў Славамір Смык.

— Разьбяр Славамір Смык выводзіцца з нашай зямлі, з нашай грамадскасці і вельмі важна, што прамуе рэгіён Гайнаўшчыны ў Польшчы і за межамі нашай краіны, — заявіў віцэ-старшыня Рады горада Гайнаўка Пётр Маркевіч.

Выстаўку адкрыў бурмістр Юры Сірак, які ў сваім выступленні звярнуў увагу на высокі мастацкі ўзровень разьбы Славаміра Смыка. На адкрыццё выстаўкі прыбыў новы дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко. Прысутны быў таксама надляснічы Юры Анджэюк з Бельскага надлясніцтва, якое па-рознаму дапамагае свайму працаўніку, ляснічаму гэтага ж надлясніцтва Славаміру Смыку на яго творчай дарозе.

— Славамір Смык, гэта наш лепшы разьбяр, які — так як і я — выводзіцца з Дабрывады. Яго прыгожыя работы знаходзяцца не толькі ў Кляшчэлях, але таксама ў нашай Дабрывадзе. Сёння на адкрыцці выстаўкі відаць, як вялікім зацікаўленнем карыстаюцца яго работы. Побач яго традыцыйнай разьбы зацікавілі мяне таксама яго новыя працы, — сказала гайнаўская настаўніца-пенсіянерка Тамара Яўдасюк.

— Мне асабліва падабаецца абстрактная творчасць Славаміра Смыка, у якой шукае ён новай формы для сваіх прац, — заявіў гайнаўскі жывапісец Данель Грамацкі, працы якога будуць экспанавацца на чарговай выстаўцы ў белмузеі ў рамках рэалізаванага праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», які фінансуецца ў галоўным Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі.

ISSN 0546-1960